ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№5 (110) май 2020 год
CATHOLICNEWS.BY









Caritas

Стар. 9

# “Caritas Віцебск” працягвае дапамагаць тым, хто мае патрэбу ў нялёгкі час эпідэміі

**Caritas Віцебскай дыяцэзіі працягвае дапамагаць патрабуючым у перыяд эпідэміі. Падчас дабрачыннай акцыі, арганізаванай пры фінансавай падтрымцы партнёраў з Caritas Лінц (Аўстрыя), усе парафіі Віцебскай дыяцэзіі атрымалі антысептыкі (усяго 1500 штук), а таксама маскі, рэспіратары і пальчаткі. Вышэйпералічаныя сродкі супрацьвіруснай абароны будуць выкарастаныя для стварэння як мага больш бяспечных умоваў у нашых парафіях і святынях.**

# “Ян Павел II: Папа, які быў са сваім народам на шляху да свабоды”

**18 мая спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Папы Яна Паўла II. Амбасадар Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі даслаў у “Нашу Ніву” з гэтай нагоды свой артыкул. Ён пісаў яго не як дыпламат, а як сведка і ўдзельнік тых гістарычных падзей, якія былі звязаныя з абраннем першага папы-славяніна.**

Вечар 16 кастрычніка 1978 года быў вечарам здзіўлення і радасці. Тады не было мабільных тэлефонаў, інтэрнэту, сацыяльных сетак, і ўсё роўна не было, бадай, ніводнага чалавека ў Польшчы, да якога не дайшла ў гэты вечар ашаламляльная навіна — кардынал Караль Вайтыла, архіепіскап Кракаўскі, стаў папам рымскім. Гэта навіна перадавалася з вуснаў у вусны, у чэргах, у аўтобусах, у трамваях. Людзі хутчэй вярталіся дадому, каб уключыць тэлевізар. Гэта не было грамадскае тэлебачанне, гэта было дзяржаўнае, партыйнае тэлебачанне, якое дзесяцігоддзямі карміла грамадства догмамі сацыялізму, які называўся прагрэсам, якое свабодны свет, свет свабодных еўрапейскіх народаў паказвала як гнілы Захад, якое змагалася са светам хрысціянскіх каштоўнасцей, якое насуперак перакананням большасці грамадзян усхваляла свет без Бога, дзе панавала ідэалогія, навязаная палякам насуперак іх волі, супярэчная з іх традыцыямі і гісторыяй. Аднак…

Аднак у гэты вечар нават кантраляванае камуністычнай партыяй тэлебачанне прызнала, што гэта не той момант, калі можна змагацца з народам, што гэта момант, калі ўсе адчуваюць гонар, нават прадстаўнікі навязанай улады. Нечакана была зменена праграма, гэты вечар быў прысвечаны адной тэме, у гэты вечар мы адчулі ў Польшчы супольнасць, мы сядзелі перад тэлевізарамі, глядзелі на тое, што адбывалася ў Рыме, на Караля Вайтылу на балконе, ужо папу рымскага Яна Паўла II, які вітаў натоўп на плошчы Святога Пятра, і запомнілі гэты вобраз: раскрытыя абдымкі і яго заклік: “Не бойцеся шырока расчыніць дзверы Хрысту”. Такі заклік быў глыбока евангельскім, але ў свеце, у якім мы тады жылі, больш за 40 год таму, калі ўлада лічыла нармальным панаваць над сумленнем людзей, якая нахабна ўрывалася ў прастору свабоды сумлення чалавека, у сямейнае і грамадскае вымярэнні нашага жыцця, быў заклікам, які меў рэвалюцыйнае адценне, меў палітычнае вымярэнне.

Рэвалюцыйнае, але мірнае, рашучае, але пазбаўленае насілля. І так ужо засталося на гады ў нашым польскім успрыманні, што словы яго казанняў, прамоў мы чыталі і ў палітычным сэнсе, мы бачылі, што яго словы патэнцыяльна здольны злучыць у адзін струмень нашае імкненне да свабоды і незалежнасці, права на фарміраванне нашага жыцця згодна з нашымі перакананнямі і традыцыямі. Насамрэч навучанне Яна Паўла II мела перш за ўсё рэлігійнае, духоўнае вымярэнне, палітычны пасыл не быў асноўным. Але кантэкст, у якім мы жылі, у дзяржаве з навязаным нам звонку ладам, у дзяржаве, дзе ігнараваліся асноўныя свабоды, правы чалавека, нават фундаментальныя ісціны мелі палітычнае вымярэнне. Бо чым менш было індывідуальнай і грамадскай свабоды, тым большая частка нашага жыцця, нашых паводзін, пазіцый набывалі палітычнае вымярэнне.

Пасля першых хвілін душэўнага пад’ёму, гонару, прыйшоў час роздуму, час працы, доўгая ўверцюра да вялікіх перамен, грамадскіх, палітычных, але перш за ўсё перамены сэрцаў, расло пачуццё нацыянальнай супольнасці, якая мае права жыць згодна з уласнымі ўяўленнямі, якая можа сказаць “не” навязанаму чужой ідэалогіяй парадку, якая мае права будаваць сваю будучыню як свабодны народ, у свабоднай дзяржаве, якая мае права адчуваць сябе часткай супольнасці свабодных еўрапейскіх народаў. Так я адчуваў настрой тых дзён, складана было канкрэтна ўявіць, да чаго гэта ўсё прывядзе, але подых свабоды, гордасці і радасці мы ўжо адчувалі ў сваіх сэрцах. Ужо было вядома, што не будзе так, як было раней, што гэта падзея — гэта толькі пачатак перамен, вялікіх перамен. Такім я запомніў той памятны вечар 16 кастрычніка 1978 года.

Ужо праз паўгода Ян Павел II да нас прыехаў — у чэрвені 1979 года ён наведаў сваю радзіму.

У Варшаве было цудоўнае надвор’е, самалёт італьянскіх авіяліній прызямліўся ў аэрапорце “Акенце”. З’явілася белая постаць чалавека, які, узняўшы рукі, прывітаў сваіх землякоў, а пасля, схіліўшыся ў глыбокім паклоне, пацалаваў родную зямлю. Пазней ужо на адкрытай платформе грузавіка Ян Павел II ехаў па сонечных вуліцах сталіцы і вітаў вялізны натоўп людзей, якія віталі яго.

Гэты натоўп сапраўды быў вялізны. На працягу дзесяцігоддзяў людзей заганялі на розныя грамадскія акцыі, на першамайскія дэманстрацыі, прымушалі ўдзельнічаць у іх, як у школах, так і на працы, і нягледзячы на гэта, многія не прыходзілі. А тут ніхто нікога не прымушаў, а быў натоўп, спантанны натоўп. Тэлебачанне, якое перадавала ўрачыстасць з плошчы Перамогі ў Варшаве, адчувала сябе вартаўніком афіцыйнай ідэалогіі. Яно рабіла, што магло, каб паказаць пераважна пажылых людзей, жанчын, святароў. Панарамных ракурсаў не было. Кадры старанна падбіраліся, аднак падмануць рэчаіснасць не атрымалася, людзі, якія ў той час былі на плошчы, ведалі — мы ўсе там былі: і святары, і звычайныя грамадзяне, жанчыны і мужчыны, моладзь і дзеці, быў народ. Я помню, як нехта тады сказаў: паглядзі… бачна, дзе народ, а дзе ўлада…



Менавіта гэтаму натоўпу Ян Павел II адрасаваў сваё казанне, згадваючы гісторыю народа, пакуты Варшавы, і якраз у канцы гэтага казання прагучалі славутыя словы, якія часта цытуюць: “Няхай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі, гэтай зямлі”. Гэта сказаў не толькі папа рымскі, а сказаў менавіта гэты папа рымскі, на гэтай зямлі, першы папа рымскі — славянін. Гэта сказаў папа рымскі, які паходзіў з краіны з-за жалезнай заслоны, які ведаў нашу рэчаіснасць і які, як і ўсе мы, прысутныя ў цэнтры Варшавы, як мільёны тых, хто сабраўся перад тэлевізарамі, вялікіх перамен, проста свабоды.

У рэшце рэшт гэта сказаў папа рымскі — літаратар і акцёр, які выдатна разумеў прыгажосць і сілу сказанага слова. І гэтыя словы сталі прарочымі. Мінула менш за год, і ў Польшчы распачаліся забастоўкі, была створана “Салідарнасць”, людзі сказалі “досыць”, але гэта не было “досыць”, спалучанае з агрэсіяй і насіллем, хоць гэта было рашучае “досыць”. І хоць першая “Салідарнасць”, першы легалізаваны ў камуністычным свеце прафсаюз праіснаваў як легальны толькі паўгода, калі ён у снежні 1981 года быў жорстка задушаны разам з увядзеннем ваеннага становішча, ужо было вядома, што шлях да аднаўлення гэтай зямлі відавочны, дарогі назад ужо няма, гэта можа быць складаны, доўгі, поўны пакут шлях, але дарогі назад ужо няма. Зняволеныя дзеячы “Салідарнасці”, іх сем’і, людзі, якія адразу пачалі супраціўляцца, сышоўшы ў падполле, і вялікія, вялікія групы насельніцтва ўважліва слухалі тады голас з Ватыкана, голас свайго папы рымскага — земляка. І гэты голас быў голасам у абарону прыгнечаных, даваў суцяшэнне, надзею, дадаваў адвагі. Гэту падтрымку народ адчуваў увесь час, у тым ліку і падчас чарговых візітаў Яна Паўла II на радзіму.

У 1987 годзе ў Гданьску, адкуль падзьмуў вецер перамен, у калысцы “Салідарнасці”, ён звяртаўся да вялікага натоўпу: я гавару “Вам, але і за Вас”, таму што ўсё яшчэ панавала камуністычная ўлада, усё яшчэ не было свабоды слова. Я помню, як яго голас рэхам адбіваўся ад жылых дамоў у гданьскім раёне Заспа. Тады ён таксама гучна прамовіў слова, якое зненавідзелі ўлады і якое так паважаў народ, — Салідарнасць. Яго словы выклікалі шквал апладысментаў, якія доўга не сціхалі. Я помню сцягі, транспаранты, якія ўзносіліся над натоўпам, нібыта хвалі Балтыйскага мора.

Тут, у Гданьску, да моладзі, якая сабралася на Вестэрплатэ, дзе 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, ён сказаў: “Вы павінны патрабаваць ад сябе, нават калі іншыя не будуць патрабаваць ад вас”. Гэтыя словы знайшлі і працягваюць знаходзіць водгук у сэрцах моладзі, гэта быў заклік высока падняць планку, гэта зноў былі словы, якія проста заклікалі да маральнага аднаўлення, да фарміравання характару маладых, але ў той час гэта былі таксама словы, якія неслі ў сабе моцны палітычны зарад: не згаджайцеся з усім, што вам падсоўвае ўлада, думайце крытычна, вучыцеся, майце ўласнае меркаванне, самі распараджайцеся сваім жыццём, у вас ёсць права будаваць свабодную, незалежную радзіму сваіх мар, у вас ёсць права свабодна развівацца, ісці ўласным шляхам.

1989 год, таксама чэрвень — праз 10 год пасля памятнага першага візіту Яна Паўла II у Польшчу і таго памятнага закліку да Святога Духа, змянілася аблічча гэтай зямлі. У Польшчы адбыліся першыя ў гэтай частцы свету, за жалезнай заслонай, часткова свабодныя парламенцкія выбары — усё, што можна было выйграць, “Салідарнасць” выйграла, падтрымка грамадства была пераважнай і адназначнай — гэта ўжо быў вялізны крок на шляху да свабоды. На гэтым шляху з’яўляліся новыя выклікі, таму што свабода — гэта выклік і гэта няпросты шлях, але ў Польшчы заўсёды было адчуванне, што мы не пакінуты на волю лёсу, што на гэтым шляху нас суправаджаў Ян Павел II, які пракладваў нам шлях да жаданай свабоды.

Мінула дакладна 100 год з таго дня, калі ён нарадзіўся 18 мая 1920 года ў Вадавіцах каля Кракава. Ён перажыў жахі Другой сусветнай вайны, складаную эпоху камунізму, балюча перажываў адсутнасць свабоды, засілле прапаганды і хлусні, замоўчванне праўды. Ён імкнуўся да пераадолення падзелу — і паміж людзьмі, народамі, цэрквамі, і палітычнага. Ён заклікаў да адзінства і Еўропы, і хрысціян, асабліва Каталіцкай і Праваслаўнай царквы, а таксама людзей розных культур і канфесій. З гэтым пасланнем ён ездзіў па свеце, наведаў 129 краін, хацеў прыехаць і ў Беларусь…

***Артур Міхальскі,***
*амбасадар Польшчы ў Беларусі*
*nn.by*

## *Арцыбіскуп Кандрусевіч:*
# Донарства крыві робіць падобным да Хрыста, або Як даць шанц цяжкахворым



**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч запрашае тых, хто перанёс каранавірусную інфекцыю, пацверджаную медыцынскімі дакументамі, стаць донарамі крыві, што можа стаць паратункам для цяжкахворых на каранавірус.**

Шаноўныя браты і сёстры! Ужо працяглы час мы назіраем, як пандэмія каранавірусу непасрэдна закранае ўсё больш жыхароў нашай краіны. Але мы не сядзім склаўшы рукі.

Касцёл распрацаваў і ўвёў шэраг захадаў, мэта якіх – прадухіліць распаўсюджванне інфекцыі і максімальна засцерагчы нашых вернікаў, іх родных і блізкіх, а таксама іншых людзей ад заражэння.

Трываючы ў малітве да Усемагутнага Стваральніка пра збаўленне нашай краіны і ўсяго свету ад гэтай "чумы XXI стагоддзя", Касцёл, асабліва праз структуры Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Caritas", таксама актыўна ўключыўся ў дабрачынную дапамогу тым, каму яна сёння найбольш патрэбная.

Сёння я асаблівым чынам звяртаюся да людзей, якія асабіста адчулі, што такое каранавірус.

Калі так сталася, што вы захварэлі, але з Божай дапамогай і дзякуючы ахвярным высілкам медыкаў вылечыліся ад гэтай небяспечнай хваробы без цяжкіх наступстваў для здароўя, досвед вашага цярпення можа прынесці вялікую карысць іншым людзям. І вось якім чынам гэта можна зрабіць.

У арганізме чалавека, які перахварэў на нейкую вострую вірусную ці бактэрыяльную інфекцыю, імунная сістэма (калі няма яе рэдкіх цяжкіх дэфектаў) выпрацоўвае супраць патагена антыцелы – спецыяльныя бялкі, што дапамагаюць змагацца з інфекцыяй і не захварэць на яе паўторна пэўны час (у выпадку з некаторымі хваробамі – нават усё жыццё).

Аналагічным чынам працуюць і вакцыны: калі мы робім прышчэпку, антыцелы да кампанентаў мікраарганізмаў выпрацоўваюцца нават без факту самога захворвання.

Мы пакуль што не ведаем канкрэтна, як чалавечы імунітэт адказвае на новы каранавірус COVID-19, бо жывём у век доказнай медыцыны, калі для дакладнага сцвярджэння патрэбныя пэўны час і высілкі правядзення шматлікіх даследаванняў з іх далейшым аналізам. Але медыкі сведчаць, што гэты новы вірус прынцыпова не адрозніваецца ад сваіх больш бяспечных для чалавека "суродзічаў": як і іншыя каранавірусы, ён павінен выклікаць імунны адказ.

На сёння ад COVID-19 няма вакцыны. Але, што самае страшнае, ад яе няма нейкага спецыфічнага лячэння, якое б уздзейнічала на сам вірус. Фактычна нашыя медыкі гераічна змагаюцца за жыццё хворых з адзінай мэтай: максімальна падтрымліваць іх жыццёва важныя органы, пакуль арганізм не выпрацуе ўласныя антыцелы.

Гэта патрабуе часу – звычайна два-тры тыдні. Часу, якога ў чалавека можа і не быць...

Любыя браты і сёстры ў Хрысце! Я заклікаю вас выканаць запаведзь Любові да бліжняга і дапамагчы іншым хворым, калі вы самі нядаўна перанеслі пацверджаны выпадак COVID-19. У вашай крыві знаходзяцца каштоўныя антыцелы, якія нашы прафесійныя медыкі могуць з яе вылучыць.

Вашымі антыцеламі будуць эксперыментальна лячыць іншых, цяжкахворых людзей. Наколькі вынік лячэння будзе эфектыўным, медыкі скажуць, калі пандэмія скончыцца. Але дайце іншым цяжкахворым прынамсі гэты шанц!

Хрыстус збавіў нас сваёю святою Крывёю на Крыжы. Яго Кроў пастаянна ахвяруецца за нас на кожнай святой Імшы.

Браты і сёстры! Памятаючы пра Кроў Хрыста, якой мы збаўлены, давайце падзелімся нашай крывёю з тымі, хто гэтага патрабуе!

Гэты добры ўчынак хрысціянскай міласэрнасці будзе прыемным Богу і, магчыма, дапаможа не толькі ўратаваць камусьці жыццё на зямлі, але таксама пакажа шлях веры ў жыццё вечнае, які для ўсіх людзей адкрыў Уваскрослы Хрыстус.

Усіх, хто перанёс каранавірус, вылечыўся і гатовы стаць донарам крыві, запэўніваю ў сваёй малітве і ад усяго сэрца благаслаўляю ў імя Айца, +і Сына, і + Святога Духа.

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*
*Catholic.by*

# Папа Рымскі пра існаванне "пандэміі" голаду, войнаў, непісьменнасці



**14 мая падчас ранішняй Эўхарыстыі Папа Францішак заклікаў у гэты крызісны час не паддавацца эгаізму, думаючы толькі пра сваю бяспеку, але памятаць і пра іншых.**

Угамілії Пантыфік спаслаўся на чытанне з Кнігі прарока Ёны, у якім апавядаецца пра пакаянне жыхароў Ніневы. Яны паслухалі голасу прарока, навярнуліся і такім чынам змаглі ўратаваць свой горад ад разбурэння, здолелі збавіцца ад "маральнай пандэміі", – заўважыў Папа Францішак.

Святы Айцец нагадаў, што 14 мая вернікі ўсіх веравызнанняў далучыліся да малітвы, посту і пакаяння ў інтэнцыі спынення пандэміі каранавіруса.

"Кожны з нас моліцца, супольнасці моляцца, канфесіі моляцца: моляцца да Бога ўсе браты і сёстры, з'яднаныя ў братэрстве, якое лучыць нас у гэты балючы і трагічны перыяд", – сказаў Пантыфік.

Папа Францішак заўважыў, што пандэмія прыйшла нечакана, і цяпер шмат людзей памірае ў адзіноце і бездапаможнасці. Ён заклікаў не паддавацца эгаізму, думаючы толькі пра сваю бяспеку, але памятаць і пра іншых людзей.

"Падумаем пра трагедыю, пра эканамічныя наступствы, пра наступствы, якія маем цяпер і якія будуць потым", – дадаў Папа.

Святы Айцец заўважыў, што знойдуцца людзі, якія будуць крытыкаваць ініцыятыву, называючы яе праявай недапушчальнага рэлігійнага рэлятывізму.

"Чаму нельга маліцца да Айца ўсіх? Кожны павінен маліцца так, як умее, згодна са сваёй уласнай культурай. Мы не молімся адзін супраць аднаго, але яднаемся як людзі, як браты і сёстры, скіроўваючы нашы малітвы да Айца, згодна з нашай культурай, традыцыяй, рэлігійнымі звычаямі", – патлумачыў Пантыфік.

Папа Францішак звярнуў увагу на існаванне іншага кшталту пандэміі. Яна таксама вядзе да гібелі людзей, толькі гэтага ніхто не заўважае. "Мы не зусім усведамляем існаванне гэтых трагедый у свеце ў наш час. На працягу чатырох першых месяцаў гэтага года ад голаду памерлі 3,7 мільёнаў чалавек", – заўважыў Папа. Ён нагадаў пра існаванне "пандэміі" вайны і адсутнасці доступу да адукацыі.

"Няхай Бог спыніць гэту трагедыю, няхай спыніць гэту пандэмію. Няхай Бог злітуецца над намі і спыніць таксама і іншыя, не менш смяротныя віды пандэміі: голад, войны, непісьменнасць сярод дзяцей. Будзем прасіць пра гэта як браты, усе разам. Няхай Бог благаславіць усіх нас і змілуецца над намі", – сказаў на заканчэнне гамілії Святы Айцец.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Італія: дзве гадзіны ў чарзе да святой Камуніі

**Каля 500 чалавек стаялі дзве гадзіны ў чарзе да касцёла ў гарадку каля Трэвіза на поўначы Італіі, каб прыняць святую Камунію.**

Для людзей гэта была іх першая святая Камунія за апошнія два месяцы, калі пачаўся каранцін праз эпідэмію каранавірусу.

Пасля прагляду трансляцыі святой Імшы ў інтэрнэце вернікі з горада Адэрза чакалі святую Камунію ў масках і пальчатках.

Мясцовая газета "Il Gazzettino", якая паведаміла пра гэту падзею, працытавала словы пробашча кс. П'ерпаола Базічэтто: "...Усё прайшло добра, спакойна і бяспечна".

Ад сакавіка ў Італіі нельга праводзіць святыя Імшы з удзелам вернікаў. Яны не былі аднолькава і ў распачатай 4 мая другой фазе эпідэміі, калі паслабілі пэўную частку абмежаванняў. Не выключаецца, што рашэнне па гэтым пытанні будзе прынята ў канцы мая.

*misyjne.pl*



# Ініцыятыва "Грош святога Пятра" перанесена па прычыне пандэміі

**Улічваючы надзвычайную эпідэміялагічную сітуацыю, Святы Айцец перанёс традыцыйны збор ахвяраванняў, вядомы як "Грош святога Пятра" (Obolo di san Pietro), на кастрычнік.**

Ініцыятыва, якая рэалізуецца звычайна 29 чэрвеня, ва ўрачыстасць святых Пятра і Паўла, у 2020 годзе ажыццявіцца ў XXVII Звычайную нядзелю, 4 кастрычніка, у дзень, прысвечаны св. Францішку Асізскаму, – паведаміла Зала Друку Святога Пасаду.

Традыцыя была ўведзеная ў паўсюдную практыку Касцёла ў 1871 годзе энцыклікай Пія IX "Saepe Venerabilis", а шырокае распаўсюджанне атрымала ў XX ст. Ахвяраванні накіроўваюць Пантыфікам на рэалізацыю канкрэтных спраў міласэрнасці.

Трэба нагадаць, што ў вернікаў ва ўсім свеце ў 2016 годзе з'явілася дадатковая магчымасць падтрымаць дабрачынныя ініцыятывы Святога Айца. Гэта можна рабіць на адмысловым сайце. Акрамя магчымасці фінансавым чынам паўдзельнічаць у папскіх ініцыятывах міласэрнасці, рэсурс знаёміць з дабрачыннымі праектамі Святога Пасаду, прамовамі Папы на тэму міласэрнасці, старажытнай гісторыяй ініцыятывы "Грош святога Пятра".

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Пятага не дадзена, або Чаму ў вёсцы Задзеўе



Касцёл Перамянення Пана ў Задзеўі восенню 1915 года

Вакол Пастаў нямала вёсачак са сваёй непаўторнай гісторыяй, але аднолькава сумным лёсам. Некалі шматлюдныя і гаманлівыя, яны ператварыліся ў маўклівыя і непрыкметныя. "Рэанімаваць" іх ніхто ўжо і не бярэцца, хіба толькі стомленым гарадской мітуснёй дачнікам пад сілу ўдыхнуць у такія вёскі хоць нейкае ды жыццё.

Яскравы прыклад — Задзеўе. У пачатку мінулага стагоддзя тут пражывала больш за сотню жыхароў. У нядзелю і ў святы жыццё ў мястэчку вiравала з асаблівай моцай — вернікі з усіх ваколіц з'язджаліся сюды, каб памаліцца ў касцёле. Спачатку ён быў сціплы, драўляны, аднак у 1911 годзе непадалёк ад яго ўзвялі велічны храм з чырвонай цэглы, які на дзясяткі метраў узвышаўся над маляўнічай мясцовасцю. Калі б не Першая сусветная, любаваліся б мы ім і сёння. Але гэтаму помніку архітэктуры, як, дарэчы, і многім іншым, суджана было стаць адной са шматлікіх ахвяр той Вялікай вайны.

На шчасце, захаваўся фотаматэрыял, на якім адлюстраваны касцёл у Задзеўі, і памяць пра яго не страчана назаўжды. Гаворка ідзе пра нямецкія паштоўкі, якія для сваёй прыватнай калекцыі набыў даследчык Першай сусветнай вайны Уладзімір Багданаў. Ён жа выдаў кнігу "Битва у Нарочи, 1916", дзе можна ўбачыць асобныя здымкі гэтага каталіцкага храма і прачытаць пра тое, як і чаму ён быў знішчаны.

Аўтар піша: "Калі восенню 1915 года лінія фронту стабілізавалася ў раёне Пастаў, касцёл аказаўся побач з перадавой: расійскія пазіцыі знаходзіліся адразу за Задзеўскім возерам. У ходзе Нарацкай аперацыі велічны будынак быў зруйнаваны расійскай артылерыяй". Рашэнне "расстраляць" храм вайскоўцы прынялі таму, што яго высокія вежы для немцаў з'яўляліся выдатнай аглядней пляцоўкай і гэта давала ім перавагу падчас правядзення баявых дзеянняў.

Што стала з руінамі храма? Адказ і на гэта пытанне ёсць у кнізе "Битва у Нарочи, 1916". "Рэшткі касцёла, што ўзвышаўся ў Задзеўі, знаёмыя кожнаму нямецкаму салдату як далёка заўважны арыенцір, згрызены незлічонымі рускімі снарадамі, падарвалі нямецкія сапёры, каб здабыць цэглу для будаўніцтва печаў у кватэрах і бліндажах". (Цытата ўзята з нямецкай палкавой гісторыі, выдадзенай у Берліне яшчэ ў 1934 годзе і ўпершыню на рускай мове апублікаванай у кнізе Уладзіміра Багданава).

Як жа сумна пасля гэтага сведчання чытаць аптымістычныя звесткі пра тое, як храм пачынаў сваю дзейнасць...

"18 верасня 1911 года было праведзена асвячэнне касцёла ў Задзеўі Надвілейскага дэканата. Ён быў пабудаваны на месцы старога драўлянага. Новы храм быў высокім, прыгожым, цагляным (цалкам складзены з чырвонай цэглы), пакрытым ацынкаванай бляхай.

Касцёл быў закладзены 6 жніўня 1901 года ксяндзом Матэеем Бугянісам (Maciej Bugianis), задзеўскім настаяцелем, які асвяціў вуглавы камень, закладзены ў падмурак будучага касцёла.

Само асвячэнне касцёла ў нядзелю, 18 верасня 1911 года, адбывалася наступным чынам. У старым (драўляным) касцёле, які знаходзіўся побач з новым, зранку адбываліся набажэнствы. У 10 гадзін раніцы пачалася цырымонія асвячэння новага касцёла, на якой прысутнічалі ўсе ксяндзы з суседніх і далёкіх парафій, а таксама прыхаджане з размешчаных побач і аддаленых касцёлаў. Працэсія прайшла ад старога да новага касцёла, дзе адбыліся малебны пасвячэння, затым — асвячэнне касцёла звонку і знутры. Потым у старым касцёле прачыталі пропаведзь, а затым Найсвяцейшы Сакрамант быў перанесены ў новы касцёл. У 11 гадзін у ім адбылося першае богаслужэнне" *(крыніца — тагачасная польская дыяцэзіяльная газета).*

Калі ў Задзеўі быў пабудаваны першы касцёл, дакладна невядома. Аднак гэта адбылося не пазней чым напрыканцы XVI стагоддзя. Ёсць інфармацыя, што ў 1765 годзе віленскі біскуп Тамаш Зянковіч на месцы разбуранага па невядомых прычынах першага задзеўскага касцёла пабудаваў новы, драўляны, і ў тым жа годзе яго асвяціў. Гэты ж касцёл, які шмат разоў падвяргаўся рэстаўрацыі, захаваўся да часу ўзвядзення цаглянага касцёла ў 1911 годзе. Сумны лёс гэтага помніка архітэктуры вам ужо вядомы.

Шмат цікавых звестак пра Задзеўе і навакольныя вёскі ўдалося сабраць пастаўскаму краязнаўцу Ігару Пракаповічу і яго былой вучаніцы Ірыне Заяц. Яшчэ ў 2006 годзе яны выдалі кніжку "Мястэчка над возерам. Задзеўе і ваколіцы", дзе змешчаны матэрыялы, звязаныя з геаграфіяй, гісторыяй, культурай Задзеўя і вёсак Дукі, Ліцвінкі і Новы Двор.

Падчас падрыхтоўкі выдання аўтары гутарылі з мясцовымі жыхарамі, звярталіся да літаратурных і музейных крыніц, шукалі звесткі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. І гэта прынесла плён — выданне адкрывае шмат старонак з даўнейшага жыцця вёскі.

"Супрацьстаянне армій прывяло да таго, што вёскі Дукі і Задзеўе былі знішчаны. Частку хат разабралі на ўмацаванні, частка згарэла ад страляніны. Значная частка жыхароў падалася ў бежанства, тыя ж, хто застаўся, былі вывезены немцамі ў лагер у Вільню, дзе многія памерлі ад голаду і хвароб", — так у выданні апавядаецца пра наступствы Першай сусветнай. Пра яе, дарэчы, сёння нагадваюць некалькі нямецкіх пахаванняў на вясковых могілках у Задзеўі.

У кніжцы таксама можна прачытаць і пра тое, што адбывалася ў Задзеўі пасля заканчэння Вялікай вайны. Цікавы факт: у міжваенны перыяд на месцы старога цаглянага касцёла ў вёсцы быў пабудаваны невялікі драўляны. Вёска працягвала быць рэлігійным цэнтрам. На фэсты, якія ладзіліся тут у жніўні на Спас, па ўспамінах мясцовых жыхароў, з'язджаліся да 30 ксяндзоў.

Аднак, як пішуць аўтары, наперадзе вёску чакала новае ліха. Пасля 1945 года сталі праводзіцца работы па расшырэнні і мадэрнізацыі аэрадрома каля Задзеўя (яго будаўніцтва было распачата яшчэ ў 1939 годзе). У гады Другой сусветнай вайны пасадку на ім штодня здзяйснялі па 10-15 самалётаў.

Узлётная паласа аэрадрома размяшчалася так, што



Касцёл у Задзеўі. Нямецкая паштоўка, адпраўленая ў студзені 1917 года. Сама фатаграфія зроблена ў красавіку 1916-га.



1917 год. Фота з альбома нямецкага салдата 131-га пяхотнага палка (IR 131).

# чатыры касцёлы не “прыжыліся”


Першая Камунія. Дзеці з ксяндзом задзеўскай парафіі. Здымак зроблены летам 1944 або 1945 года каля драўлянага касцёла ў Задзеўі, пабудаванага на месцы цаглянага.

на пад’ём самалёты ішлі ў бок Літвы, а на пасадку — над Паставамі і Задзеўем. Будынак касцёла перашкаджаў арганізацыі палётаў. Храм разабралі, бярвенне вывезлі ў вёску Мягуны, дзе з яго паставілі клуб. Праўда, як сведчаць людзі, гэты будынак праз два гады згарэў.

Іконы з касцёла вяскоўцы разабралі па хатах. Яны спадзяваліся, што храм зноў пабудуюць. Але гэтага, на жаль, не адбылося. Насельніцтва ў вёсцы паступова стала змяншацца. У 1965 годзе ў ёй налічвалася 14 двароў і 31 жыхар, у сярэдзіне 90-х — толькі 5 жылых двароў і 13 жыхароў.

***Апошні задзеўскі ксёндз Вельгат** (на здымку) **быў абвінавачаны ў прыналежнасці да англійскай разведкі і ў 1949 годзе пасаджаны ў турму. Вярнуўся ў Задзеўе ў 1956 годзе, аднак быў вымушаны выехаць у Польшчу. Там і памёр, бо ногі адняліся.*** (З успамінаў Уладзіславы Хаўзюк, апублікаваных у кніжцы “Мястэчка над возерам”)

Сёння на месцы велічнага цаглянага касцёла ўзвышаецца крыж. Непадалёк ад яго — помнік ксяндзу пробашчу мясцовай парафіі Ежы Мачульскаму (1863—1915). Яго за ўласныя сродкі аднавіў ураджэнец Пастаўшчыны Мар’ян Бумбліс. Успаміны таксама запісаны ў кнізе “Мястэчка над возерам”. Ён, напрыклад, згадваў, што “школы і крамы ў Задзеўі не было, а возера Ксяндзоўскім называлі”.

...Па Задзеўі хочацца гуляць бясконца: тут адчуваеш сябе ў палоне прасторы і прыроды. Сташ ля возера — і дух захоплівае ад прыгажосці навакольных мясцін.

А на тым беразе сваім жыццём жывуць Паставы — выдатна праглядваюцца шматпавярховыя дамы, будаўнічая мітусня ля дзіцячага садка, які цяпер узводзіцца на ўскраіне мікраёна 6-га гарадка... Добра бачныя з Задзеўя і пастаўскія касцёл і царква. Калі б не Першая сусветная, яны з розных берагоў возера “пераглядваліся” б з велічным храмам у Задзеўі. Калі б не вайна, сёння ў вёсцы частымі гасцямі былі б вернікі і турысты — безумоўна, было б значна больш жыцця ў ціхім мястэчку над возерам.

Калі б... Але гісторыя, як вядома, умоўнага ладу не церпіць...

Увогуле, ці многія помнікі архітэктуры напаткаў сумны лёс задзеўскага касцёла?

— Храмаў у Першую сусветную ў Беларусі было пашкоджана нямала, — пракаменціраваў Уладзімір Багданаў. — У асноўным пацярпелі тыя, што знаходзіліся побач з фронтам. Паблізу Пастаў можна прыгадаць касцёл у Відзах, царкву ў Блізніках Мядзельскага раёна, капліцу-пахавальню Друцкіх-Любецкіх на беразе возера Варанец... Цалкам разбураны царква і пабудаваны перад вайной касцёл у Смаргоні. Ды і царкве ў Паставах дасталася — гэта бачна на здымку, які ёсць у маёй прыватнай калекцыі.

І сёння ў Беларусі ёсць храмы, якія стаяць у руінах яшчэ з часоў Першай сусветнай. Гэта храм у Наваспаску пад Смаргонню, царква ў Бярозаўцы пад Карэлічамі, царква ў Івашкаўцах пад Зэльвай. Моцна пацярпелі храмы ў Крэве (асабліва былы касцёл). Наогул, спіс можна скласці доўгі...

Касцёл у Відзах Браслаўскага раёна. Яго будаўніцтва было завершана напярэдадні Першай сусветнай, у 1914 годзе. “Калі праз год сюды прыйшла вайна і лінія фронту стабілізавалася, Відзы аказаліся на перадавым краі нямецкай абароны. На той момант вежы касцёла былі самымі высокімі пабудовамі на тэрыторыі Беларусі — каля 70 метраў. Агляд з іх адкрываўся выдатны, і немцы абуладкавалі там назіральны пункт. Каб знішчыць яго, расійскія артылерысты 5 сакавіка 1916 года правялі інтэнсіўны артабстрэл касцёла, што стала адным з першых актаў Нарацкай аперацыі. Абстрэлы працягваліся і пазней, у выніку храм быў амаль разбураны. Калі ў 1920-я гг. яго сталі аднаўляць, на памяць пра ваеннае мінулае ў сцены ўмуравалі некалькі снарадаў Першай сусветнай. Калі прыгледзецца, то дзенідзе на цагляных сценах і цяпер можна разгледзець характэрныя наступствы артылерыйскага агню” (з кнігі “Битва у Нарочи, 1916”).

**Іна Сняжкова,**
*postawy.by*


Помнік ксяндзу пробашчу мясцовай парафіі Ежы Мачульскаму


Узрывальнікі ад расійскіх снарадаў, цэгла і кавалак чарапіцы ад касцёла, які некалі тут стаяў. Знойдзены 25 красавіка 2020 года даследчыкам Уладзімірам Багданавым.


Касцёл у Смаргоні, як і ў Задзеўі, быў пабудаваны напярэдадні Першай сусветнай. У вайну быў разбураны, потым цалкам разабраны.




Касцёл у Відзах. Сучасны выгляд

# Формула успешного экзамена

## Советы психолога

**Моя статья сегодня адресована в первую очередь школьникам выпускных классов, студентам и абитуриентам, для которых в скором времени наступит горячая пора – сдача экзаменов.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Многим из нас знаком этап жизни под названием "Экзамены". У всех они были разные, но есть то, что их объединяет, – это бессонные ночи, волнение и страх. Бесспорно, экзамены – это всегда тяжелое испытание для нашей психики и организма в целом. Психоэмоциональные нагрузки вследствие экзаменационного стресса нередко становятся своеобразным "пусковым механизмом" для возникновения серьезных заболеваний.

Но как говорил английский писатель Терри Пратчетт, "мы можем что-нибудь изменить? – Нет! – Тогда не вижу смысла паниковать". Вот и я рекомендую вам не волноваться и не паниковать: экзамены были, есть и будут. Эта та ситуация, на которую мы не в силах повлиять. Мы можем только изменить свое отношение к ней, принять это как некую данность, а еще мы можем и, пожалуй, должны обратить ситуацию экзамена себе на пользу.

Итак, что можно сделать, чтобы подготовка к экзаменам не превратилась в пытку?

• Для начала нужно подготовить место, где вы будете заниматься, готовиться к экзаменам. Уберите лишние и отвлекающие вас вещи, разложите нужные учебники, пособия, тетради, ручки и т.д. Считается, что желтый и фиолетовый цвета способствуют повышению интеллектуальной активности, поэтому их можно намеренно внести в интерьер вашей комнаты на время подготовки.

• Если настроиться на работу никак не удается и нет даже намека на желание заниматься, можно попробовать сделать следующее: разложите учебники, конспекты, письменные принадлежности. Сядьте за рабочий стол. Просто так, без всякой цели полистайте страницы учебника, подержите в руках ручку. Просмотрите свои записи. Поменяйте местами книжки и т.п. Через несколько минут у вас появится рабочее настроение и желание приступить к занятиям.

• На уровень нашей трудоспособности влияют биоритмы нашего организма. Поэтому важно определиться с тем, кто вы по жизни – "сова" или "жаворонок", и в зависимости от этого максимально сместить нагрузку на утренние или вечерние часы.

• Также будет полезно составить план на каждый день подготовки, где необходимо четко определить, что именно и в каком объёме сегодня будет изучаться, например, какие разделы, параграфы или главы. Обязательно отмечайте выполненные пункты плана на день. С одной стороны, это очень приятно, ведь вы большой молодец, раз осилили их, с другой, это позволит контролировать объём изученного материала.

• Помните, что ваша задача не бездумно вызубрить, а в первую очередь – понять. Поэтому концентрируйте внимание на ключевых моментах изучаемого материала. Полезно повторять материал по вопросам. Вначале вспомните и кратко запишите все, что вы знаете по конкретному вопросу, а затем проверьте себя по учебнику. И здесь мне бы хотелось обратить ваше внимание на процессы запоминания / забывания. Изучением процесса забывания занимался немецкий психолог Герман Эббингауз. Он исследовал механизмы памяти и с помощью многочисленных экспериментов в 1985 году получил так называемую "кривую забывания", или "кривую Эббингауза". Ученый обнаружил, что сразу после первого запоминания начинается процесс забывания. Вначале он происходит очень быстро – уже спустя один час люди забывают до 60% информации. Через 10 часов – 65%, но далее динамика замедляется. Через шесть дней процесс приостанавливается на значении 20%. Опираясь на "кривую забывания", он предложил определенный алгоритм для лучшего запоминания:

**1.** Сразу после прочтения материала повторите первый раз.

**2.** Через 20 минут после первого раза – второе повторение.

**3.** Через 8 часов после второго раза – третье повторение.

**4.** Через сутки после третьего повторения повторяете четвертый раз.

**5.** Чтобы запомнить надолго, нужно также повторить еще через 2-3 недели и через 2-3 месяца.

• Не стоит забывать и об отдыхе. Ведь прочесть больше материала не значит лучше его запомнить. Поэтому чередуйте занятия и отдых. Например, 1 час занятий, затем 30 минут отдыха. Данные временные рамки каждый определяет индивидуально. В период, когда вы отдыхаете, важно заняться более активным видом деятельности.

• Для лучшего усвоения нужного материала можно визуализировать то, что вы учите, например, составить на бумаге разнообразные схемы, таблицы, планы.

• Если того требует экзаменационная дисциплина, научитесь хорошо выполнять практические задания (решать задачи, формулы и т.д.), при этом еще и рассказывать алгоритм ваших действий и рассуждений по ходу решения. Это также поможет усвоить материал.

• Наиболее трудные для вас вопросы можно рассказать родным или тому, кто сможет вас выслушать. В таком случае старайтесь делать все так, как будто вы уже на экзамене.

• Готовясь к экзамену, никогда не думайте о том, что у вас ничего не получится, наоборот, мысленно представляйте себе картину легкого победного ответа. Мысли о возможном провале и ориентация на неудачу недаром считаются саморазрушающими. Они не только мешают подготовке, но и способствуют апатии, когда вы все начинаете делать спустя рукава (зачем прикладывать усилия, все равно ничего не получится). Не стоит также себя ругать за неудачный результат экзамена. Мы всего лишь люди, все знать невозможно, да и выше собственных возможностей не прыгнешь. Неудача – это не повод винить себя, это сигнал о том, что следует приложить чуть больше усилий в будущем.

Хочу сказать несколько слов и о суевериях, приметах, которыми окутана тема экзаменов. Обдумывая содержание статьи, я решила ознакомиться с данным вопросом и пришла к выводу, что различных суеверий и примет для, как подчеркивается, успешной сдачи экзаменов существует бесчисленное количество. И что я могу сказать? Чтобы вы не делали, к примеру, кричали в форточку: "Халява приди!", спали с учебниками под подушкой (а это как минимум жутко неудобно), ходили на все экзамены в одной и той же одежде, не мыли голову перед экзаменами, одевали вещи красного цвета и... да много еще чего вы можете делать, этот список достаточно обширный, все это никак не поможет вам сдать экзамены без усилий, потому что только ваша собранность / уверенность + знания = успешный экзамен. И только такой формулы стоит придерживаться. А еще мы как люди верующие можем помолиться о хорошей сдаче экзамена и, пребывая в состоянии душевного спокойствия, уверенные в себе и собственных знаниях преодолеть этот жизненный этап. Помните о том, что жизнь всегда требует от человека конкретных усилий, и если вы определенный период времени поверхностно и несерьезно относились к учебе, то ни эти, ни какие-либо другие рекомендации, существующие приметы и суеверия не смогут в одночасье восполнить существующие пробелы в знаниях.

В заключение еще пару моментов, которые следует иметь в виду за несколько дней до экзамена:

• Оставьте пару дней непосредственно перед экзаменом на то, чтобы вновь повторить вопросы. Лучше повторять билеты (вопросы) в хаотичном порядке.

• Если вы волнуетесь, то просто представьте себе ситуацию экзамена во всех красках, со всеми своими чувствами, эмоциями, переживаниями, "страшными мыслями", но так, как бы вы хотели, чтобы все прошло, как должно произойти при успешной сдаче экзамена. Это помогает понять, что в целом ситуация не так страшна как мы думаем. Также можно пообещать себе какое-либо вознаграждение за экзамен: ожидание чего-то приятного помогает пережить стрессовую ситуацию.

• Накануне экзамена перестаньте готовиться. Устройте себе своеобразный "день тишины". Потратьте этот день на общение с родными, постарайтесь "зарядиться" положительными эмоциями, обязательно найдите время для прогулки на свежем воздухе, хорошенько выспитесь. В день экзамена примите контрастный душ, не стоит лишать себя завтрака. И не забудьте про хорошее настроение.

Я желаю вам удачи и помните: все обязательно получится!



# 200 литров молока в сутки для нуждающихся с фермы Папы Римского

**На ферме Папских вилл ежедневно производится около 800 литров молока**

С самого начала чрезвычайной ситуации, связанной с эпидемией КОВИД-19, ферма Папских вилл в Кастель Гандольфо ежедневно обеспечивает римских бедняков, которых постоянно сопровождает Служба Папских милостей и лично ее глава – кардинал Конрад Краевский.

Каждый день к семи часам утра из Кастель Гандольфо в Ватикан доставляют двести литров свежего молока и йогурты – все это затем кардинал Краевский сам развозит нуждающимся. Как пояснил директор Папских вилл Андреа Тамбурелли, хотя идея этой акции солидарности родилась в связи с пандемией, она будет продолжаться и после ее окончания.

Ферма Папских вилл ежедневно производит около 800 литров молока. Половина поступает в ватиканский супермаркет, предназначенный для жителей Ватикана и для его сотрудников, а вторая половина сразу же после дойки идет на производство молочных продуктов: йогурта, молодых и выдержанных сыров, которые также продаются в ватиканском супермаркете. Таким образом, в настоящее время половина молока, обычно поступавшего в продажу на территории Града Ватикан, передается римским бедным.

Ферма, расположенная на Папских виллах в Кастель Гандольфо, представляет собой модель целостной экологии, полностью соответствующую положениям энциклики Laudato si'. Здесь заботятся не только и не столько о прибыли, сколько о людях, о животных и об окружающей среде. На ферме трудятся 54 человека.

*Ольга Сакун, русская редакция Vatican News*



## На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** чэрвеня – дзень нараджэння і гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*; гадавіну святарскага пасвячэння **кс. Максім Бачарнікаў SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**9** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Алег Зямчонак** *(Віцебск)*;

**11** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Паставы)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*;

**13** чэрвеня – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалаты)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Мёры)*;

**15** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**17** чэрвеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**19** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*;

**20** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21** чэрвеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**23** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**24** чэрвеня – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**27** чэрвеня – імяніны адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін, кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Глыбокае)*;

**29** чэрвеня – дзень нараджэння і імяніны адзначае **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалаты)*; імяніны адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*.

*Падрыхтавала Вікторыя Колзун*

# Першая Камунія. Экзамен

## Віктарына



**Заканчваецца катэхетычны год. Дзеці здаюць экзамен па галоўных праўдах хрысціянскай веры, а потым прыступаюць да першай споведзі, а таксама прымаюць Першую Камунію. А вы памятаеце гэты дзень у сваім жыцці? Ці змаглі б вы сёння здаць экзамен перад Першай Святой Камуніяй? Прайдзіце новы тэст "Каталіцкага Весніка"**

**1** Колькі існуе святых сакрамантаў у Каталіцкім Касцёле?



**А.** 5
**Б.** 7
**В.** 10

**2** Як гучыць 5-я запаведзь Дэкалогу?



**А.** Шануй бацьку свайго і маці сваю
**Б.** Не забівай
**В.** Не крадзі

**3** Пыха, хціваць, зайздрасць, гнеў, распуста – галоўныя грахі. Чаго не хапае ў гэтым пераліку?



**А.** Усе грахі пералічаны
**Б.** Лянота
**В.** Неўмеркаванасць у ежы і піцці і лянота

**4** Найважнейшыя хрысціянскія ўчынкі гэта: пост, малітва...



**А.** Навяртанне
**Б.** Прабачэнне
**В.** Міласціна

**5** Адна з галоўных запаведзяў любові гучыць так: "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім,..." Дапоўніце.



**А.** і ніколі не наракай.
**Б.** і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім.
**В.** добраахвотна і свядома.

**6** Што неабходна чалавеку для збаўлення?



**А.** Ласка Божая
**Б.** Фінансавы дабрабыт
**В.** Здароўе

**7** Што з пералічанага не з'яўляецца сакраментам?



**А.** Бежмаванне
**Б.** Пахаванне
**В.** Намашчэнне хворых

**8** Адна з галоўных праўдаў хрысціянскай веры кажа нам, што душа чалавека –



**А.** нябачная
**Б.** несмяротная
**В.** прыгожая

**9** Колькі існуе касцельных наказаў?



**А.** 5
**Б.** 7
**В.** 10

**10** Эўхарыстычны пост абавязвае ўстрымлівацца ад ежы і пітва мінімальна:



**А.** 1,5 гадзіны да святой Імшы
**Б.** 1 гадзіну перад прынясцем Святой Камуніі
**В.** 30 хвілін перад прынясцем Святой Камуніі

*Падрыхтавала Вікторыя Колзун*

Правільныя адказы на старонцы 16

### Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакраментальная паслуга, размова, кожны пятніцу з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298





Каталіцкі ВЕСНІК
№5 (110)
май 2020 г.

# “Людзі яго любяць!”

## Біскупу Казіміру Велікасельцу – 75!

**60 км да першай споведзі на ровары, тры гады падпольнай семінарыі, пяць св. Імшаў у дзень, дзесяць адкрытых парафій, штодня ружанец і Крыжовы шлях. Што яшчэ мы ведаем пра біскупа Казіміра Велікасельца?**



5 мая дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец адзначыў сваё 75-годдзе. Гэта найстарэйшы іерарх сучаснага Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Яго святарская і біскупская дзейнасці прыпалі на гады адраджэння парафій і ўсёй структуры Касцёла ў Беларусі, і ў гэтую вялікую справу іерарх унёс важкі ўклад. У апошнія гады ён служыць у Гомелі, дзе будуе новую святыню – ужо чацвёртую за сваё жыццё. Як вядома, па дасягненні 75-гадовага ўзросту біскупы, паводле Кодэкса кананічнага права, накіроўваюць просьбу на імя Пантыфіка аб сыходзе на пенсію. Таму цяперашні дзень нараджэння для біскупа Казіміра – важная дата, калі ён падводзіць вынік сваёй пастырскай дзейнасці.

У гэтыя дні, калі ў Беларусі складаная эпідэміялагічная сітуацыя, іерарху даводзіцца асабліва берагчыся праз свой узрост, таму ён знаходзіцца на самаізаляцыі. Таксама і па прычыне сваёй сціпласці біскуп Казімір не стаў размаўляць на тэму ўласнага 75-годдзя. Але Беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё пагутарыла з калегам юбіляра, старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Ён, дарэчы, таксама хутка будзе адзначаць аналагічную дату – у пачатку 2021 года.

Іерарх памятае сваё знаёмства з Казімірам Велікасельцам. Гэта было ў 1980-х гадах у Вільні. У той час малады святар Тадэвуш Кандрусевіч служыў у капліцы Маці Божай Вострабрамскай, а Казімір Велікаселец працаваў зваршчыкам на будаўніцтве ўнівермага ў Вільні і прыходзіў на св. Імшу. І ўжо тады вучыўся ў падпольнай духоўнай семінарыі. Час быў цяжкі, не хапала кніг, таму Казімір прасіў у кс. Тадэвуша літаратуру для навучання. Так і пасябравалі.

“Я ў ім бачу вельмі адданага Касцёлу чалавека. І ў той жа час – вельмі простага чалавека, які ўмее размаўляць з кожным: і з вельмі адукаваным, і з тымі, хто займае высокія пасады, і са святарамі, біскупамі. Мне падабаецца стыль яго прапаведавання: проста і адначасова глыбока. Біскуп Казімір часта праводзіць рэкалекцыі, і мне даводзілася чуць ад святароў з Польшчы: “У нас вёў рэкалекцыі біскуп Велікаселец – як ён падняў дух народу! Як прамаўляў!” Вельмі проста і даходліва, з жыццёвымі прыкладамі – гэта ўздзейнічае на людзей лепей, чым тэалагічныя размовы. Людзі яго любяць”, – падкрэсліў арцыбіскуп.

Ён адзначыў, што ў епіскапаце біскуп Велікаселец займае актыўную пазіцыю, вырашае пытанні з практычнага пункту гледжання. Арцыбіскуп нагадаў, што яго калега распачынаў будоўлю святыні ў Брэсце. Няпроста было атрымаць дазвол, распачаць і весці будоўлю. Цяпер аналагічная справа ў Гомелі. Даводзілася часта прыязджаць у горад, размаўляць з уладамі, але ён цярпліва рухаўся наперад і ўрэшце атрымаў дазвол, пачаў будаўніцтва.

“Хочацца падзякаваць біскупу Казіміру за яго адданае, ахвярнае служэнне як святара, законніка, біскупа і пажадаць добрага здароўя, каб ён працягваў выкарыстоўваць таленты, якімі адарыў яго Бог, для развіцця Касцёла і збаўлення людзей!”, – дадаў арцыбіскуп.

Казімір Велікаселец нарадзіўся 5 мая 1945 г. у вёсцы Стараволя Пружанскага раёна цяперашняй Брэсцкай вобласці ў сям'і сялян. Ужо ў 1948 г. парафіяльны касцёл тут зачынілі, святара арыштавалі. Але дзякуючы глыбокай веры бацькоў Казімір з дзяцінства быў прывучаны да малітвы. Да першай споведзі і св. Камуніі хлопчыка рыхтаваў бацька. І ў 10-гадовым узросце адвёз яго на ровары ў найбліжэйшы касцёл у Кобрын – гэта 60 км у адзін бок. Казімір Велікаселец памятае, як а другой гадзіне ночы бацька пасадзіў яго побач на ровар, а да восьмай раніцы яны былі ў Кобрыне. Там святар прыняў іспыт у Казіміра, дапусціў яго да першай споведзі і Камуніі. Назад дадому – таксама 60 кіламетраў на ровары.

Сям'я слухала па радыё св. Імшу на польскай мове. У юнацтве Казімір вывучыў на памяць Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі. І, калі яго прызвалі ў войска, чытаў яе штодня: калі засцілаў ложак раніцай ці калі клаўся спаць пасля адбою. Кожную нядзелю замест Эўхарыстыі маліўся на Ружанцы. Дарэчы, цяпер біскуп Казімір штодня моліцца ўсе чатыры часткі ружанца, а таксама разважае над Крыжовым шляхам.

Пасля войска ён накіраваўся працаваць на будоўлю ў Вільню. Там жа пазнаёміўся з братамі-дамініканцамі, у далейшым склаў у ордэне першыя манаскія шлюбы. Тры гады ўлады не давалі Казіміру магчымасці паступіць у Рыжскую семінарыю. Вярнуўшыся ў БССР, у канспірацыі рыхтаваўся да паступлення. Двойчы ездзіў у Маскву з просьбай дазволіць яму паступіць у семінарыю. У выніку дамогся гэтага дазволу і ў 1981 г. быў прыняты ў Рыжскую семінарыю адразу на трэці курс.

Біскуп Казімір узгадвае, што першапачаткова ён хацеў паступаць у медыцынскі інстытут, падаў туды дакументы, але працягваў сумнявацца ў пакліканні. Тады звярнуўся да Панны Марыі праз Вострабрамскі абраз з просьбай дапамагчы вызначыцца ў пакліканні. Узамен паабяцаў на працягу года штодня ўдзельнічаць у св. Імшы. Аднойчы падчас пілігрымкі да абраза Маці Божай у Шылуве пачуў заклік паступаць у семінарыю.

Адразу пасля заканчэння семінарыі святар абслугоўваў пяць парафій – гэта значыць, што ў нядзелю трэба было служыць пяць св. Імшаў! Цікава, што гэтыя парафіі былі ў памежных вёсках і мястэчках Брэстчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны. Атрымліваецца, што за адзін дзень ён бываў адразу ў трох абласцях… Акрамя пастырскага служэння, займаўся рэстаўрацыяй і рамонтам святыняў. У цэлым адкрыў або аднавіў працу каля дзесяці парафій.

У 1992 г. Казіміра Велікасельца прызначылі Генеральным вікарыем Пінскай дыяцэзіі, у 1999 г. ён атрымаў біскупскую сакру. Паводле іерарха, у яго служэнні было шмат цяжкасцей, і ўсе іх ён вырашаў на каленях перад Найсвяцейшым Сакрамантам, прасіў пасярэдніцтва Маці Божай.

Гаворачы аб выхадзе на пенсію, біскуп Казімір прызнаецца, што ён абсалютна спакойны, бо ў кожным статусе можна знайсці для сябе годны занятак.

***Беларуская рэдакцыя Vatican News***



Біскуп Велікаселец падчас цэлебрацыі св. Імшы ў гомельскай капліцы




# “Caritas Віцебск” працягвае дапамагаць тым, хто мае патрэбу ў нялёгкі час эпідэміі

У канцы красавіка ў Віцебску людзям з інваліднасцю, якія знаходзяцца на самаізаляцыі, былі дастаўленыя на дом прадукты харчавання.

Валанцёры, нават знаходзячыся на самаізаляцыі, хочуць дапамагаць. І часу дарма не марнуюць. Пашытыя імі маскі ўжо перададзеныя ў Віцебскую гарадскую бальніцу №1, Віцебскую абласную бальніцу, Віцебскі анкадыспансер.

4 мая дзякуючы партнёрам з “Caritas Прага” былі закупленыя прадукты харчавання, медыцынскія маскі і сродкі дэзінфекцыі для шматдзетных, малазабяспечаных сем’яў і сем’яў, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю, у Віцебскай дыяцэзіі.

5 мая дзякуючы падтрымцы сяброў з “Caritas Лінц” (Аўстрыя) Цэнтр часовага (начнога) знаходжання для бяздомных асобаў у Віцебску атрымаў сродкі індывідуальнай абароны: маскі, пальчаткі, антысептыкі.

6 мая валанцёры “Caritas Віцебск” перадалі пацыентам абласной бальніцы пакунак з уласнаручна пашытымі маскамі і антысептычнымі сродкамі.

Міласэрнасць падчас эпідэміі актуальная як ніколі!

*Падрыхтавала Марына Сінкевіч*
*с. Дар’я Галубкова OV, фота*

# КАК ПОМОЧЬ “CARITAS ВИТЕБСК”, НЕ ВЫХОДЯ ИЗ ДОМА?

**С помощью Системы “Расчет” (ЕРИП):**

• электронными деньгами (iPay, Webmoney (WMB) и др.);

• платежной карточкой (интернет-банк, мобильный-банк, банкомат, инфокиоск, касса банка и Белпочты*);

• наличными (устройство cash-in, касса банка и Белпочты*).

* если Вы осуществляете платеж в кассе банка или Белпочты, пожалуйста, сообщите кассиру о необходимости проведения оплаты услуги через систему “Расчет” (ЕРИП).

**Для проведения платежа необходимо:**

1. Выбрать последовательно пункты: > Система “Расчет” (ЕРИП) > Благотворительность, общественные объединения > Религиозные объединения > Каритас Витебской епархии > Пожертвование

2. Ввести фамилию, имя, отчество и сумму платежа.

3. Проверить корректность информации.

4. Совершить платеж.

Номер услуги — **202783**

Нахождение услуги в дереве услуг системы “Расчет” (ЕРИП) в некоторых пунктах оплаты может отличаться от описанного выше. В связи с этим в случае возникновения проблем с поиском услуги предлагаем выполнить поиск по УНП: **300721049**.

**iPay – оплата с баланса мобильного телефона**

Комиссия системы iPay составит для абонентов МТС 3%, Life 4,5%

Совершить платеж Вы можете из личного кабинета сайта iPay.by. Для входа в личный кабинет используйте свой номер телефона и сеансовый пароль, для получения которого достаточно отправить любое SMS-сообщение на номер **5533** (стоимость SMS определяется тарифным планом абонента). После успешного входа в личный кабинет Вы можете осуществлять платежи, выбирая услуги для оплаты. Кроме того, Вы можете узнать баланс Вашего счета мобильного телефона, просмотреть историю платежей, при необходимости распечатать чек.

**Для оплаты с мобильного телефона** отправьте СМС-сообщение на номер 553 с текстом:

1617 <Фамилия и инициалы отправителя <Сумма платежа>

*Пример SMS-сообщения: 1617 ГромовАИ 10*

Обратите внимание:

• Разделитель между параметрами в СМС символ пробела;

• Сумма заказа будет списана с баланса мобильного телефона;

• Отправка СМС на номер **553** бесплатна.

# Вернікі Шчучынскай парафіі дапамаглі мясцовай лякарні

**4 мая пробашч парафіі Св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне а. Андрэй Агель SchP ад імя ўсіх вернікаў парафіяльнай супольнасці перадаў у мясцовую цэнтральную раённую бальніцу санітарна-гігіенічныя камбінезоны.**

**а. Віталь Слука,** *тэкст,* **Ганна Каспер,** *фота*

Спецвопратку закупілі дзякуючы сабраным у парафіі сродкам, адказваючы тым самым на зварот Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі пра збор ахвяраванняў на барацьбу з пандэміяй каранавірусу.

Сродкі індывідуальнай абароны былі перададзеныя асабіста галоўнаму ўрачу Шчучынскай ЦРБ Івану Уладзіміравічу Загароўскаму і намесніку галоўнага ўрача па медыцынскай частцы Людміле Мар’янаўне Чахуновай.




# Парафія ў Іўі і Caritas Гродзенскай дыяцэзіі дапамаглі мясцовым медыкам

**У гэты цяжкі час, калі ўвесь свет, у тым ліку наша краіна, вядзе барацьбу з распаўсюджаннем вірусу, шмат неабыякавых людзей дапамагаюць службе аховы здароўя. Менавіта на яе працаўніках ляжыць цяжар ратавання чалавечага жыцця.**

Парафія Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі і Іўеўскі філіял дабрачыннага каталіцкага таварыства Caritas Гродзенскай дыяцэзіі перадалі для шпіталя і санэпідэмстанцыі ахоўныя камбінезоны, маскі і бахілы, пашытыя парафіянамі. Таксама былі перададзеныя аднаразовыя гумавыя пальчаткі і аднаразовыя санітарна-гігіенічныя камбінезоны.

Ад імя вернікаў дапамогу перадаў пробашч парафіі кс. Ян Гавецкі. Таксама святар пажадаў тым, хто служыць хворым і закранутым цярпеннем, шмат сілаў і трываласці ў штодзённым служэнні.

*Кс. Юрый Марціновіч, grodnensis.by*



# Каляндар на чэрвень

**Чэрвень – месяц, які прысвечаны Сэрцу Езуса. Чэрвеньскія набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, якая ідзе з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта малітоўная практыка, праз якую мы хочам выказаць нашую ўдзячнасць за тую вялікую любоў, каторай нас адорвае Езус Хрыстус. Гэтае набажэнства складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

### 1 чэрвеня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла



Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў пастанавіла ўнесці літургічны ўспамін Найсвяцейшай Панны Марыі – Маці Касцёла – у Агульны рымскі каляндар, зацвердзіўшы яго такім чынам ва ўсім Рыма-Каталіцкім Касцёле. Як падкрэсліваецца ў дэкрэце, падпісаным прэфектам згаданай Кангрэгацыі кардыналам Рабэрам Сара 11 лютага 2018 года ва ўспамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Лурда, Марыя як клапатлівая Правадырка Касцёла ў момант яго нараджэння распачала сваю матчыну місію ўжо ў вячэрніку, дзе малілася разам з апосталамі ў чаканні спаслання Святога Духа (пар. Дз 1, 14). Невыпадкова са старадаўніх часоў хрысціяне пабожна ўшаноўвалі Марыю, называючы Яе Маці вучняў, вернікаў, усіх тых, хто адраджаецца ў Хрысце, а таксама Маці Касцёла, пра што сведчаць тэксты касцельных аўтараў і вучэнне Папаў Бэнэдыкта XIV і Льва XIII. На гэтай падставе бласлаўлёны Павел VI на заканчэнне Трэцяй сесіі Другога Ватыканскага Сабору 21 лістапада 1964 года абвясціў Марыю “Маці Касцёла, гэта значыць усяго хрысціянскага народа, як вернікаў, так і пастыраў, якія называюць Яе любай Маці”, і заклікаў, каб “увесь хрысціянскі народ штораз больш ушаноўваў Божую Маці гэтым салодкім імем”.

У сувязі з гэтым у Рымскім Імшале з’явіўся фармуляр ватыўнай Імшы пра Найсвяцейшую Панну Марыю, Маці Касцёла, а пазней гэты тытул Багародзіцы быў дададзены таксама ў Ларэтанскую літанію. Акрамя таго, адпаведная літургічная цэлебрацыя з дазволу Святога Пасаду ўвайшла ва ўласныя календары паасобных краінаў, дыяцэзій і манаскіх сем’яў. Святы Айцец Францішак палічыў, што далейшае распаўсюджванне гэтага культу можа дапамагчы пастырам, кансэкраваным асобам і ўсім вернікам лепш усprымаць Касцёл як маці, а таксама паспрые развіццю сапраўднай марыйнай пабожнасці.

Таму ён вырашыў уключыць успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла, у Агульны рымскі каляндар, прызначыўшы штогадовым днём яго адзначэння панядзелак пасля ўрачыстасці Спаслання Духа Святога.

### 4 чэрвеня – свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара



Свята ўстаноўлена Папам Бэнэдыктам XVI і з’яўляецца плёнам Года святарства, які праходзіў у Каталіцкім Касцёле з 19 чэрвеня 2009 па 11 чэрвеня 2010 г. Устанаўліваючы гэтае свята, Святы Айцец выказаў жаданне, каб яно адзначалася ў чацвер пасля нядзелі Спаслання Духа Святога. Чацвер традыцыйна лічыцца “святарскім” днём, бо менавіта ўвечары ў чацвер Хрыстус напярэдадні сваёй мукі і крыжовай смерці спажыў з апосталамі Апошнюю Вячэру, на якой устанавіў сакрамант Эўхарыстыі і службовае святарства, каторае адрозніваецца ад паўсюднага святарства Божага народа асаблівым удзелам у святарстве Хрыста тых, хто прымае сакрамант пасвячэння у сане прэзбітараў або біскупаў.

### 7 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы



Праўда пра Бога Адзінага ў Тройцы – адна з найбольшых таямніцаў хрысціянства, якую нельга спасцігнуць да канца. Існаванне Святой Тройцы з’яўляецца дагматам нашай веры. Урачыстасць святкуецца ў першую нядзелю пасля Спасланная Святога Духа. Афіцыйна ўрачыстасць увайшла ў хрысціянскі каляндар у канцы IV стагоддзя, калі на Другім Сусветным Саборы ў Канстанцінопалі (381 год) Касцёл прыняў дагмат аб Святой Тройцы. Фактарамі, якія спрыялі зараджэнню ўрачыстасці ўжо ў старажытным Касцёле, былі хрысталагічныя спрэчкі IV-V стагоддзяў і барацьба з арыянствам на германскіх землях у V-VI стагоддзях. Вылучэнне ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы ў асобнае свята адбылося па рашэнні Папы Яна XXII ў 1334 годзе, аднак у Імшал урачыстасць увайшла толькі пасля Трыдэнцкага Сабору (1570 года).

### 11 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста



Каталіцкі Касцёл святкуе ўрачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста. Яна адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы як напамін пра ўстанаўленне Сакраманту Эўхарыстыі ў Вялікі чацвер.

Распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста – Божае Цела. У цэлебрацыі гэтай урачыстасці Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён сам прабывае са сваім народам.

У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у якой Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

Святкаванне ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста бярэ свой пачатак з XIII стагоддзя. Ініцыяткай святкавання гэтай урачыстасці была святая Юліяна з Карнілії. У 1245 годзе ў кляштары аўгусцінак у Монт Карніліён, паблізу Льежа (Бельгія), яна была ўдастоена аб’яўлення Езуса Хрыста, у якім Хрыстус папрасіў пра стварэнне асобнага свята ў гонар Найсвяцейшай Эўхарыстыі.

Езус Хрыстус Сам прызначыў дзень святкавання Божага Цела (Corpus Christi) – чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Біскуп Льежа Робэрт пасля гутаркі са сваёй радай, а таксама неадкладнага разгляду гэтага аб’яўлення вырашыў выканаць жаданне Езуса Хрыста. У 1246 годзе адбылася першая эўхарыстычная працэсія. Аднак у тым жа самым годзе біскуп Робэрт паміраe.

Найвышэйшае духавенства горада на нарадзе тэолагаў прызнае дзеянні ардынарыя заўчаснымі, а святкаванне ўрачыстасці пад такой назвай у значнай ступені непрыстойным.

Святая Юліяна ледзьве не абвінавачвалася ў ерасі, за гэта яна была пераведзена з манастыра Монт Карніліён у правінцыю. Па просьбе Якуба (Жака Панталеона), архідыякана катэдры Льежа, кардынал Уга пасля паўторнага разгляду справы зацвердзіў свята. У 1251 годзе пад кіраўніцтвам архідыякана Якуба па вуліцах Льежа зноў адбылася эўхарыстычная працэсія. У 1264 годзе Папа Урбан IV, былы льежскі архідыякан Якуб, увёў святкаванне ўрачыстасці Божага Цела ў Рыме.

Непасрэдным штуршком для ўстанаўлення свята стаў цуд, які адбыўся ў Бальсэне. Калі там святар цэлебраваў святую Імшу, пасля паднясення паставіў келіх так няўдала, што некалькі кропляў крыві Хрыста праліліся на карпарал. Святар заўважыў, як віно – сімвал крыві Збаўцы – пераўтвараецца ў сапраўдную Кроў Хрыста. Карпарал з кроплямі крыві Езуса Хрыста знаходзіцца да гэтага часу ў катэдры горада Арвіета.

Папа Ян XXII пашырыў свята Corpus Christi на ўвесь Каталіцкі Касцёл, а з часоў Папы Урбана VI яно з’яўляецца адным з галоўных святаў літургічнага года Касцёла.

### 13 чэрвеня – успамін св. Антонія Падуанскага, святара і доктара Касцёла



Святы Антоній нарадзіўся каля 1195 г. у Лісабоне ў шляхетнай сям’і і пры хрышчэнні атрымаў імя Фердынанд. У 15-гадовым узросце ён уступіў у кляштар ордэна рэгулярных канонікаў святога Аўгустына ў Каімбры, дзе атрымаў добрую біблейскую адукацыю, а ў 1220 годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

У той час у касцёл Святога Крыжа ў Каімбры былі прывезены целы пяці францішканскіх першамучанікаў, якія загінулі дзеля Хрыста падчас сваёй місіі ў Марока, дзе яны прапаведавалі сярод мусульман. Гэтая падзея аказала на маладога святара такі глыбокі ўплыў, што ён вырашыў стаць францішканінам. У ордэне Братоў Меншых яму далі манаскае імя – Антоній.

Пасля місіянерскага падарожжа ў Паўночную Афрыку, якое Антоній вымушаны быў спыніць па прычыне цяжкай хваробы, ён адправіўся ў Італію. Глыбокае веданне біблійных тэкстаў, красамоўства і ўменне прыцягнуць увагу слухачоў збіралі на яго казанні шмат людзей. Акрамя таго, ён выкладаў багаслоўе ў Балоніі, Манпелье, Тулузе і Падуі і стаў адным з першых арганізатараў сістэмы адукацыі ў ордэне францішканаў. Апошнія гады жыцця правёў у Падуі, дзе і памёр 13 чэрвеня 1231 года.

Папам Грыгорыем IX далучаны да ліку святых ў 1232 годзе. Святы быў абвешчаны доктарам Касцёла (doctor evangelicus – евангельскі доктар). Мошчы святога Антонія спачываюць у Падуі ў велічнай базыліцы, узведзенай у яго гонар.

У Падуі ўзнікла традыцыя шанавання святога па пятніцах (у дзень яго смерці) і па аўторках (дзень пахавання). З XVII стагоддзя практыка “аўторкаў святога Антонія” распаўсюдзілася ў Касцёле паўсюдна.

З канца XIX стагоддзя стаў папулярным таксама звычай (традыцыя бярэ пачатак ў 1886 годзе ў Тулузе) збіраць у касцёлах ахвяраванні для бедных, якія атрымалі назву “хлеб святога Антонія”.

Святы Антоній пакінуў памяць пра сябе не толькі як пра выдатнага святара, прапаведніка і багаслова, але як і пра вялікага цудатворца: Бог здзяйсняў праз яго шматлікія цуды, аб’яўляў праз яго Сваю магутнасць, славу і міласэрнасць. Вернікі звярталіся да св. Антонія як да памочніка ў набыцці згубленых каштоўнасцей (у тым ліку і духоўных), а таксама як да заступніка ў сямейных справах.

Галоўнымі атрыбутамі святога Антонія на абразах з’яўляюцца кніга (сімвал слова Божага і асветы) і лілея, якая сімвалізуе цнатлівасць.

### 19 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса



У Каталіцкім Касцёле гэта свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з’яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне. У літургічным ка-

лендары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна – яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне стала замацаваннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы. Своеасаблівы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем законнай сястры Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце. Сястра Маргарыта была ўганараваная некалькімі аб'яўленнямі: Сэрца Езуса з'явілася ёй на вогненным троне ў цярновым вянку са знакам крыжа. Езус, паказваючы на Свой прабіты бок, папракаў людзей у няўдзячнасці пралітай Ім на крыжы крыві. Якую ахвяру ўміласціўлення трэба прынесці Хрысту за грахоўную бяздушнасць людзей? У тыя часы яшчэ не было звычаю частага прыняцця святой Камуніі, і Езус так загадаў с. Маргарыце: "Прымай Камунію ў першую пятніцу кожнага месяца, а ўначы з чацвера на пятніцу, упаўшы ніцма, маліся перад Святымі Дарамі!"

У адным з наступных аб'яўленняў Езус Хрыстус загадаў на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела праслаўляць Яго Сэрца як ахвяру ўміласціўлення за няўдзячнасць людзей, што адмаўляюць Яго любоў. Асабліва Езус дакараў у няўдзячнасці тых, каго Ён у сваёй дабрыні паклікаў на служэнне сабе і святому Касцёлу, якія вядуць лад жыцця, нявартага такога ўзнёслага звання.

Тое, што ўчыніў Збаўца нікому дагэтуль не вядомай манахіні, стала прапаведавацца ва ўсім Касцёле, на ўсіх кантынентах. Стварыліся манаскія ордэны і супольнасць Святога Сэрца Езуса. Сэрцу Хрыста прысвячаліся парафіі, школы, лякарні, храмы. Самым вядомым храмам, прысвечаным Сэрцу Езуса, з'яўляецца базыліка Сакрэ-Кёр у Парыжы. Але не абышлося і без супярэчнасцяў. Ушаноўваць цялеснае сэрца здавалася непаважлівым у адносінах да Бога. Некаторыя павучальныя кнігі пра гэты новы культ крытыкаваліся і нават забараняліся. Былі цяжкасці і іканаграфічнага парадку: ці можна наогул і як адлюстроўваць канкрэтнае сэрца?

У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. айцец Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста. Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 г. Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса пасля прыняцця святой Камуніі чытаецца малітва, у якой выказваецца просьба, каб Сэрца Езуса, у Якім свет адкрывае сапраўдную прыроду Бога, навучыла нас бачыць Хрыста ва ўсіх людзях.

У сучасным касцельным календары Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса, акрамя спецыяльнай урачыстасці, прысвечана кожная пятніца, а таксама ўвесь чэрвень.

(Святая Маргарыта Марыя Алякок)

## 20 чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі



Успамін Беззаганнага Сэрца Марыі – свята, прысвечанае ўшанаванню Беззаганнага Сэрца Багародзіцы. Адзначаецца ў суботу, на наступны дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса, на дзявяты дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела і на трынаццаты пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Марыі з'яўляецца сімвалам любові Багародзіцы да людзей, а таксама міласэрнасці і спачування да чалавецтва, за выратаванне якога Яна няспынна ўзносіць малітву.

Шанаванне Сэрца Марыі як знаку любові да людзей з'явілася ў Сярэднявеччы. Асаблівая заслуга ў распаўсюджванні культу Сэрца Марыі належыць аратарыянцу а. Яну Эду. Ён злучаў яго з культам шанавання Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Айцец Ян Эд пачаў адзначаць гэтае свята ў 1643 годзе. Ён усталяваў яго для сваіх манаскіх супольнасцяў на 8 лютага. Ён жа заснаваў кангрэгацыю, якая носіць імя Сэрцаў Езуса і Марыі, і склаў адпаведныя літургічныя тэксты для Літургіі гадзінаў (Брэвіярыя) і св. Імшы. Таксама гэтым святаром напісана самая першая кніга пра ўшанаванне Сэрца Марыі, якая называлася "Цудоўнае Сэрца Найсвяцейшай Маці Божай".

Святы Ян Эд пачаў сваё рэлігійнае вучэнне з ўшанавання Сэрца Марыі і працягнуў яго ўшанаваннем Найсвяцейшага Сэрца Езуса, тлумачачы гэта так: "Вы ніколі не павінны падзяляць тое, што Бог настолькі дасканала злучыў. Так цесна Езус і Марыя звязаны Адно з Адным, што той, хто сузірае Езуса, бачыць Марыю; кожны, хто любіць Езуса, любіць Марыю; хто мае адданасць Езусу, мае адданасць Марыі".

Папа Пій VII зацвердзіў свята Беззаганнага Сэрца Марыі як лакальнае для некаторых дыяцэзій і манаскіх супольнасцей. З тых часоў атрымалі таксама распаўсюджанне вянявы Сэрца Езуса і Сэрца Марыі.

Больш за ўсё, аднак, распаўсюджванню шанавання Сэрца Марыі паслужыў О. Жэрэт (Geretes), пробашч касцёла Маці Божай Пераможцы ў Парыжы. У 1836 годзе ён заснаваў брацтва Маці Божай Пераможцы, мэтай якога было навяртанне грэшнікаў праз Сэрца Марыі. У 1892 годзе брацтва налічвала 20 мільёнаў удзельнікаў.

З XIX стагоддзя сталі цэлебравацца набажэнствы ў гонар Беззаганнага Сэрца Марыі. Пачатак гэтаму паклала абвяшчэнне дагмату аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі Папам Піем IX у 1854 годзе, а таксама аб'яўленні Маці Божай у Люрдзе (1858 г.) і Фаціме (1917 г.).

На ўвесь Касцёл распаўсюдзіў святкаванне Беззаганнага Сэрца Марыі Папа Пій XII 4 мая 1944 года. Але літургічная рэформа пасля Другога Ватыканскага Сабору перанесла яго на суботу пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса.

## 24 чэрвеня – урачыстасць Нараджэння Святога Яна Хрысціцеля



Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным пракорам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і выступае пракорам новай фармацыі – Новага Запавету. Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Іардане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў Сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.

## 29 чэрвеня – урачыстасць Святых Пятра і Паўла, апосталаў Святыя апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.



*Падрыхтавала Вікторыя Колзун*

# Ахрышчана ў праваслаўі, але хачу стаць каталічкай

**"Хвала Хрысту! Я ахрышчаная ў праваслаўную веру двойчы. У савецкі час немаўляткам была ахрышчаная дома, але, можа, і не святаром нават, і неафіцыйна... І вось я праваслаўная... Дарослай я паўтарыла абрад у праваслаўі, бо была ўпэўненая, што ўжо прынятую рэлігію змяніць нельга. Але з цягам часу жыццёвыя абставіны пераканалі мяне ў намеры стаць каталічкай, тым больш што, як высвятляецца па ўспамінах, мая прабабуля жыла згодна з каталіцкімі традыцыямі. Мая маці – атэістка, але з павагай ставіцца да касцёла. Я даведалася, што можна ўсё ж такі прыняць каталіцтва. Я з радасцю прайду катэхізацыю, але і тут ёсць пытанні... Я ўжо ў шлюбе, і мой муж – атэіст савецкага выхавання (я, аднак, не кідаю надзеі), ён хоча, каб дзеці выбралі, прыняць хрост ці не, самастойна, а не ў маленстве. Як паставіцца Касцёл да майго намеру прыняць каталіцтва ў сувязі з існым ужо хростам і маім змешаным з пункту гледжання рэлігіі шлюбам? Як я разумею, каталікі вельмі сур'ёзна ставяцца да шлюбу, і мне крыху няёмка, адчуваю сябе дысідэнткай, але менавіта каталіцкая малітва дапамагае мне. Дзякуй!"** *Алена*

– Хвала на векі!

Вялікі дзякуй, Алена, за пытанне. У Касцёле заўсёды пануе вялікая радасць, калі павялічваецца колькасць яго вернікаў.

Вядома, што Вы, пасля падрыхтоўкі – катэхізацыі – можаце быць прынятыя ў Каталіцкі Касцёл праз вызнанне веры. Пра гэта кажа § 3 канону 112 Кодэкса Кананічнага Права: "Кожны пераход да іншага Касцёла sui iuris мае сілу з моманту абвяшчэння [вызнання веры], зробленага ў прысутнасці Ардынарыя месца гэтага ж Касцёла альбо адпаведнага пробашча, альбо святара дэлегаванага адным з іх і ў прысутнасці двух сведак, калі толькі рэскрыпт Апостальскай Сталіцы не прадугледжвае па-іншаму; і занатоўваецца ў Кнізе ахрышчаных". Для таго каб прайсці неабходную падрыхтоўку, Вам трэба звярнуцца ў найбліжэйшы да Вас касцёл і паразмаўляць з душпастырам.

Аднак пасля таго, як Вы будзеце прынятыя ў Каталіцкі Касцёл, для ўдзелу ў сакрамантах трэба будзе зрабіць наступны крок – павянчацца з мужам у Касцёле. Бо калі я добра зразумеў з пытання, Вы не маеце сакраментальнага шлюбу: жывяце як муж і жонка, але не заключылі касцельнага шлюбу. І тое, што Вы называеце "змешаным з пункту гледжання рэлігіі шлюбам", для Каталіцкага Касцёла з'яўляецца грахом. Якраз з гэтага і вынікаюць праблемы, якія не дадуць Вам магчымасці прыступаць да сакрамантаў Споведзі і Святой Камуніі, пакуль не ўрэгулюеце гэтае пытанне.

Што датычыцца сакраманту Хросту дзяцей, то трэба ўсвядоміць, што Хрост лічыцца момантам духоўнага нараджэння. І тут вельмі важна не спазніцца з хростам дзіцяці, каб яно магло нарадзіцца для ўдзелу ў супольнасці Касцёла.

Клапоцячыся пра кожнага чалавека, Касцёл акрэсліў пэўныя тэрміны, калі неабходна ахрысціць дзіця.

Канон 867 Кодэкса Кананічнага Права кажа наступнае:

"§ 1. Бацькі абавязаны паклапаціцца, каб іх дзеці былі ахрышчаны ў першыя тыдні, як мага хутчэй пасля нараджэння. І нават да гэтага яны павінны пайсці да пробашча, каб папрасіць сакрамант для дзіцяці і адпаведна падрыхтавацца да яго.

§ 2. Калі дзіця знаходзіцца ў небяспецы смерці, то яно павінна быць неадкладна ахрышчана".

У 8 нумары Уводзінаў да "Парадку хросту дзяцей" чытаем: "У тым, што датычыць часу ўдзялення хросту, перш за ўсё належыць дбаць пра збаўленне дзіцяці, каб яно не было пазбаўленае ласкі гэтага сакраманту; затым належыць браць пад увагу здароўе маці, каб яна сама, наколькі гэта магчыма, магла пры гэтым прысутнічаць. Нарэшце, калі толькі гэта не будзе перашкаджаць большаму дабру для дзіцяці, трэба браць пад увагу пастырскія патрэбы, гэта значыць, каб было дастаткова часу на падрыхтоўку бацькоў і на належную арганізацыю самога хросту дзеля лепшага выяўлення значэння самога абраду.

Калі дзіцяці пагражае небяспека смерці, яго неадкладна трэба хрысціць".

Галоўнай місіяй Касцёла з'яўляецца евангелізацыя і хрышчэнне. З першых стагоддзяў адбывалася хрышчэнне не толькі дарослых, але таксама і малых дзяцей. Пан Езус сказаў: "Калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Божае Валадарства" (Ян 3, 5), і Касцёл гэта разумеў такім чынам, што дзяцей нельга пазбаўляць хросту, паколькі іх хрысцяць у веры таго самага Касцёла, якую вызнаюць бацькі, хросныя і іншыя блізкія.

Такім чынам, мы бачым, што Касцёл клапоціцца пра самае важнае для чалавека – пра яго збаўленне. А сакрамант Хросту з'яўляецца першым і неабходным для таго, каб чалавек стаўся ўсыноўленым дзіцём Божым.

*З павагай,*
*кс. Аляксей Ляшко*

# 20 гадоў таму ў Віцебскай дыяцэзіі адбылося першае прэзбітарскае пасвячэнне

13 мая Каталіцкі Касцёл успамінае аб'яўленні Найсвяцейшай Панны Марыі ў Фаціме. У 1917 годзе ў гэтай невялікай вёсцы, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францыску Марто, Жасінцы Марто і Луцыі Душ Сантуш – аб'явілася прыгожая Панна, "Якая зззяла ярчэй за сонца". Багародзіца аб'яўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага аб'яўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, пераслед Касцёла і яго адраджэнне.

Праз 83 гады пасля тых аб'яўленняў у гісторыі Віцебскай дыяцэзіі адбылося першае прэзбітарскае пасвячэнне, удзеленае тагачасным віцебскім ардынарыем біскупам Уладзіславам Блінам. 13 мая 2000 года ў касцёле св. Барбары ў Віцебску святарамі сталі пяцёра дыяканаў: **Марат Казлоўскі, Вячаслаў Барок, Ян Пугачоў, Валянцін Станкевіч і Алег Буткевіч** – будучы ардынарый Віцебскай дыяцэзіі. На святой Імшы з гэтай нагоды прысутнічаў і Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі. У той жа дзень у Шуміліне адбылася і першая ўрачыстасць у гонар Маці Божай Фацімскай. Многія з прысутных на ўрачыстасці ў Віцебску накіраваліся ў Шуміліна, дзе на мясцовым стадыёне прайшло святкаванне і куды новапрэзбітары прынеслі фігуру Маці Божай Фацімскай.

*З нагоды 20-й гадавіны святарства рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" і нашы чытачы шчыра віншуем юбіляраў і жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа! Няхай мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для вернікаў прыкладам жыцця, а любоў і супакой хай застаюцца назаўсёды ў Вашых сэрцах!*

## Віншуем біскупа Віцебскага Алега Буткевіча з 20-годдзем святарскага пасвячэння!



*Ваша Эксцэленцыя **біскуп Алег!***

*Святары, сёстры законныя і вернікі катэдральнай парафіі шчыра віншуюць Вас з юбілейнай гадавінай святарства!*

*Думаем, апошнім часам Вам не раз давялося ўспомніць той важны дзень – 13 мая 2000 года, калі пачалося Ваша святарскае служэнне. Аднаму Богу вядома, колькі плёну для Касцёла на Віцебшчыне прынесла святарская паслуга ксяндза Алега Буткевіча: колькі вернікаў вырасла з дзяцей, якіх Вы ахрысцілі; колькі неспакойных душаў паядналася з Панам у сакраманце споведзі, якую Вы прымалі; колькі ўвогуле сакрамантаў удзелена Вашымі рукамі. А колькі малітваў Вы занеслі за сваіх парафіян з Бешанковічаў, Мёраў, Наваполацка, Віцебска! Толькі Пан Бог ведае, як адбіліся на лёсах людзей словы Вашых казанняў. І толькі Вам вядома, якіх высілкаў, якой мужнасці і ахвяры патрабавала вернасць Пану Богу на абраным шляху!*

*Дарагі наш Пастыр! Пан Бог захацеў, каб Вы атрымалі сакрамант Святарства ў найвышэйшай ступені і аддаў пад Вашу апеку Касцёл на нашай зямлі. Мы, вернікі катэдральнай парафіі, маем цудоўную магчымасць часта бачыць Вас і слухаць Вашы мудрыя настаўленні. У сувязі з такім прыгожым юбілеем святарскага пасвячэння жадаем Вам, біскуп Алег, моцнага здароўя, невычэрпнай энергіі, разумення Божай волі, правільных рашэнняў і плённай біскупскай працы! А яшчэ жадаем часцей успамінаць дзень 13 мая 2000 года.*

*Няхай не пакідае Вас прагненне ісці наперад, адчыняць замкнёныя дзверы і адкрываць для Пана новыя гарызонты! Няхай спаўняюцца самыя смелыя мары!*

***З вялікай удзячнасцю, парафія Езуса Міласэрнага (г. Віцебск)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Са старонак "Каталіцкага Весніка" хочам прывітаць былога ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі **біскупа на пенсіі Уладзіслава Бліна**. Яго Эксцэленцыя адзначае ў гэтым месяцы аж два святы – прыгожы 40-гадовы юбілей прыняцця сакраманту святарства (25 мая) і дзень нараджэння (31 мая).*

*Шаноўны біскуп Уладзіслаў! Прыміце шчырыя віншаванні ад парафіяльнай супольнасці Віцебскага катэдральнага касцёла! Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага спакою, добрых людзей побач, Божай прысутнасці ва ўсіх справах і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі! Спадзяёмся на сустрэчу з Вамі ў нашай святыні!*

*Дзякуем за служэнне на карысць дыяцэзіі і памятаем пра Вас у малітвах!*

***З найлепшымі пажаданнямі, святары, сёстры законныя, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Віцебск)***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з чарговай гадавінай святарскага пасвячэння Яго Эксцэленцыю **біскупа Алега Буткевіча, ксяндза Чэслава Куцмежа і ксяндза Анджэя Бульчака, а ксяндза Валерыя Марціноўскага** – з Днём нараджэння!*

*Прыміце нашы шчырыя словы падзякі за Вашы святарскія пакліканні да працы на Божай ніве, за добрыя сэрцы і добразычлівасць да вернікаў, за павучальныя казанні і прыклад пабожнасці. Жадаем Божых ласкаў і апекі Маці Марыі ў Вашай нястомнай працы, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення і цярплівасці ў выкананні Божых планаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Віншуем!



*Дарагому **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды Дня нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння дасылаем сардэчныя пажаданні! Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Цябе сваімі ласкамі: здароўем і супакоем, мудрасцю і стойкасцю ў душпастырскай працы! Няхай на твары заўсёды яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б'ецца ад той любові, якая ў ім жыве! Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а праца на Божай ніве прыносіць задавальненне і шчодры плён!*

***З любоўю, мама, сястра Ірына, брат Дзмітрый, пляменнікі Юля, Насця, Дар'я, Дзмітрый, Мілана***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем **ксяндза-пробашча Мікалая Ціхановіча** з Днём нараджэння (14 мая) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (19 мая)!*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Мікалай, Божай ласкі на кожны дзень жыцця і святарскай палугі! Няхай Дух Святы кіруе Вамі і шчодра адорвае сваімі дарамі, а Маці Божая клапатліва атуляе сваёй апекай! Дзякуем Вам за шчырае і адданае служэнне Пану Богу, Касцёлу і ўсім нашым парафіянам!*

***Удзячныя вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Віталь Бяленік!** Дазвольце павіншаваць Вас з гадавінай святарскага пасвячэння, які Вы адзначаеце 26 мая. Прыміце шчырыя пажаданні здароўя, міру і душэўнай гармоніі ад вернікаў нашай парафіі! Няхай моцная вера, светлая надзея і верная любоў Бога напаўняе Ваша сэрца і сэрцы кожнага блізкага, кожнага знаёмага, кожнага верніка радасцю і павагай, няхай Госпад заўсёды будзе з Вамі, няхай кожны дзень жыцця нясе з сабой свет Божай дабрыні і шчасця! Жадаем Вам сілы духу, моцнай веры ў гэты неспакойны час! Шчыра дзякуем Вам за словы падтрымкі, за добрыя парады для кожнага з нас!*

***Вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Падсвіллі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем нашага паважанага пробашча, святара-францішканіна **айца Яраслава Банасяка** з Днём святарскага пасвячэння (29 мая)!*

*Шаноўны айцец Яраслаў! Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што Вы ёсць сярод нас, што з'яўляецеся яскравым прыкладам сапраўднага хрысціяніна! Дзякуем Вам за духоўнае выхаванне дзяцей і моладзі, за паглыбленне нашай веры, за святарскую паслугу!*

*Няхай Пан Бог належна ацэньвае Вашую нястомную працу, залатыя рукі, шчодра адорвае Сваімі ласкамі, дапамагае ва ўсіх штодзённых справах, у пераадольванні ўсіх цяжкасцей! Дух Святы няхай натхняе на ўсе карысныя справы, памнажае мудрасць, насычае духоўнымі і фізічнымі сіламі, падтрымлівае ў здароўі! Маці Божая няхай заўсёды крочыць побач з Вамі па ўсім святарскім шляху і трымае пад Сваёй апекай! Няхай заўсёды ў Вашым сэрцы побач з Езусам пануюць супакой і дабро!*

***Удзячныя парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі з аг. Удзела, Глыбоцкі раён***

## Хвала Хрысту!



*З вялікай павагай і любоўю віншуем святара-францішканіна **айца Вальдэмара Куяву,** які 13 мая адзначыў 25-гадовы юбілей святарскага пасвячэння! Усе 25 гадоў яго святарскай паслугі звязаныя з Беларуссю.*

*Паважаны айцец Вальдэмар! Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў аг. Удзела шчыра ўдзячныя Вам за ўсю працу, за старанне паглыбіць нашу веру, за духоўнае выхаванне, за цярпенне!*

*Няхай добры Бог шчодра адорвае Вас неабходнымі ласкамі, а Маці Марыя хай пасылае Вам ружы з высокага неба і ахінае Сваім плашчом! Дух Святы няхай узмацняе і памнажае Вашу мудрасць, дабрыню і спагаду!*

*Зычым здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, шчаслівага манаскага жыцця. Няхай запаленая іскра паклікання разгараецца ярчэй і ярчэй праз усё Вашае жыццё!*

***Удзячныя парафіяне***

## З юбілеем, дарагая сястра!



*29 мая юбілейны дзень нараджэння адзначае **сястра Люцына Мусёл** з ордэна Служабнічак Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганна Зачатай. Сястра працуе ў Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага, шмат часу аддае дзецям: праводзіць заняткі па катэхезе, канікулы з Богам, забаўляльныя мерапрыемствы, вучыць дзяцей маліцца і правільна паводзіць сябе на святой Імшы. Наша сястра не забываецца і пра людзей старэйшага ўзросту. Разам з сястрой Ёнашай яны апякуюцца клубам "Сеньёра", дзе дапамагаюць жанчынам-удзельніцам узрастаць у малітве, пазнаваць Пана Бога і Яго Касцёл, не сумаваць у адзіноце і напаўняць жыццё карыснымі справамі – ад упрыгожання пальмовых галінак на Вербніцу да выпякання пернікаў на Божае Нараджэнне.*

*Шаноўная сястра Люцына! Шчыра віншуем Вас з прыгожым юбілеем! Жадаем Вам радасці і шчасця, моцнага здароўя і добрых людзей побач, спаўнення мар і Божай дапамогі ў штодзённых справах!*

*Прыміце таксама віншаванні ад бацькоў дзяцей, якіх Вы падрыхтавалі або рыхтуеце да Першай Камуніі. Вялікі дзякуй Вам за гэту працу! Няхай Пан Бог аддзячыць за цярплівасць і спагаду, а вучні радуюць паслухмянасцю, стараннасцю і добрымі ведамі! Няхай Ваша справа дае багаты плён і ў падмурку веры новага пакалення вернікаў Віцебска будуць і Вашы цаглінкі!*

***З найлепшымі пажаданнямі і малітвай, вернікі катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*13 мая дзень нараджэння адзначае **сястра Ёнаша Мровец** з парафіі Езуса Міласэрнага ў г. Віцебску.*

*Шаноўная сястра! Віншуем Вас з Днём нараджэння! Ад усіх нашых сэрцаў жадаем Вам шчасця, любові і дабрыні! Няхай душа спявае, сэрца радуецца, а свет не перастае здзіўляць! Моцнага здароўя Вам і Вашым блізкім! Просім у Маці Божай апекі для Вас!*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі катэдральнай парафіі, асабліва дзеці, моладзь, удзельнікі хору***

## Хвала Хрысту!



*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Эдварда Нарадоўскага** з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння (1 мая) і з Днём нараджэння (26 мая)!*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Эдвард, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці Божай, моцнага здароўя, душэўнага спакою, шчырых і добразычлівых людзей на Вашым святарскім шляху!*

***З павагай і ўдзячнасцю ад імя вернікаў парафіі Маці Божай Ласкавай, апостальскі рух "Маргарытка", в. Задарожжа***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*У кожным мястэчку Беларусі ёсць асяродак духоўнасці, дзе чалавек можа адпачыць сэрцам і наталіць душу спакоем. Такім месцам у нашым аграгарадку Ёды з'яўляецца касцёл Маці Божай Шкаплернай. Хоць парафія наша маленькая, але вельмі дружная. У нашым касцёле працуе **ксёндз Генадзь Рэйшэль.** Мы, парафіяне, шлём Богу падзяку, што маем ксяндза з такой добрай, ахвярнай душой, аддалага Хрысту і Касцёлу! Наш ксёндз заўжды адкрыты, добразычлівы, энергічны і мэтанакіраваны, за што і паважаюць яго парафіяне.*

*Святар праводзіць таксама катэхезу для дзяцей. Пад яго кіраўніцтвам у касцёле ладзяцца прыгожыя дэкарацыі да ўрачыстасцей. Па прапанове ксяндза Генадзя ў нас з'явіўся новы алтар з рэстаўрацыйным абразом, якому больш за 100 гадоў. А які парадак у нас на могілках!*

*З нагоды святарскага пасвячэння (15 мая) мы ад усяго сэрца жадаем ксяндзу Генадзю моцнага здароўя, Божага натхнення і радасці ў працы!*

***З пашанаю і малітваю, удзячныя парафіяне з аг. Ёды***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем з Днём нараджэння (26 мая) тату ксяндза Мікалая Ліпскага, які працуе ў Новалукомлі.*

*Шаноўны **Пётр Мікалаевіч**! Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння і жадаем Божага благаслаўлення і заступніцтва Маці Божай!*

***Вернікі касцёла з г. Новалукомля***



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **парафіяне з Ёдаў, Зарана Высоцкая** *(Глыбокае)*, **Вольга Завацая** *(Захарнічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Марыя Вансовіч** *(Паставы)*, **Скрага В.В.** *(Падсвілле)*, **Пашкевіч Э.В.** *(Бігосава)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **парафіяне з Браслава, Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Тэрэса Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Ванда Вішнеўская** *(Мёркі-2)*, **Ірына Ядзевіч** *(Паставы)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Соф'я Кашчыц** *(Навасады)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Кашчыц Л.В.** *(Ашмяны)*, **Гарачка М.К.** *(Шаркаўшчына)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі)*, **Лукашэвіч Л.Г.** *(Навасады)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Карневіч Е.В.** *(Ніўнае)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Рух "Маргарытка"** *(Задарожжа)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Раіса Казаровец** *(Варапаева)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Парфяновіч Я.І.** *(Пялікі)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Марыя Скробут** *(Параф'янава)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вольга Завадская** *(Захарнічы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Эмма Козел** *(Докшыцы)*, **Эмма Роўда** *(Новалукомль)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Эвеліна Богуш** *(Пераслега)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Сёстры-кармелитки: пять вещей,
## которым мы можем научиться благодаря карантину

**Карантин изменил привычный уклад жизни миллионов людей по всему миру. Ограничение свободы передвижения и коммуникаций, отмена всех массовых мероприятий, защитная экипировка для любого выхода на улицу и круглосуточная домашняя изоляция... То, что казалось мифом и вымыслом ещё пару месяцев назад, стало нашей сегодняшней реальностью. Однако есть и такие группы людей, на которых введённые меры практически никак не отразились, и их жизнь осталась той же, что и прежде.**

**К таким редким исключениям относятся, например, монахи и монахини, ведущие затворнический образ жизни. Для них затвор – это не вынужденная мера, обусловленная чрезвычайным положением, а добровольный выбор и постоянный образ жизни. Чему мы можем научиться в новой для нас обстановке? Этот вопрос мы задали сёстрам закрытого ордена Босых Кармелиток, находящегося в Караганде.**

**Итак, извлекаем пользу из карантина вместе с настоятельницей монастыря Кармелиток сестрой Терезой.**

**Готовская Ксения, матушка Тереза,**
*catholic-kazakhstan.org*

### 1. ТИШИНА

Однажды меня спросил один музыкант: "Знаешь, какая самая лучшая музыка для музыканта? Это...тишина". И я согласна. Для меня тишина – это тоже своего рода музыка, которая приносит мне отдохновение, даёт силы, помогает сосредоточиться, учит восхищаться простыми вещами, например, восходом и закатом солнца, тучами, звездным небом, шёпотом или силой ветра, какой-нибудь букашкой... Всё это помогает открыть присутствие Бога, Его любовь, учит слышать себя и другого. Тишина создает такое пространство, где ты остаёшься самим собой и открываешь правду о себе и о другом... Иногда эта правда может быть не очень приятна. Может быть, потому мы и заглушаем тишину.

### 2. РАБОТА С ВНУТРЕННИМИ СТРАХАМИ

Это независимо от того, живу я вне затвора или в затворе, где бы я ни был, я всегда остаюсь со всем своим жизненным опытом. Но в уединении все спрятанные глубоко страхи выходят на поверхность и начинается настоящая духовая брань. Человек сталкивается с разными страхами, но, наверное, главный страх – это страх смерти. Не только той большой, которая нас всех ожидает когда-то, но этой каждодневной маленькой смерти, страх ежедневного умирания. Мы все боимся умирать, боимся того, что нас может ожидать после смерти. Как с этими страхами справиться? Учиться доверять Богу и людям. Каждый день. Молитва, Таинства, жития святых – всё это дано нам в помощь для преодоления разных сложностей и страхов.

### 3. ДИСЦИПЛИНА И ВНУТРЕННЯЯ СВОБОДА

Сознательно ограничивая себя в чём-то, дисциплинируя своё тело, мы укрепляем силу своей души, обретая внутреннюю свободу. Если я не ошибаюсь, это называется "аскеза". Этот процесс святой Иоанн Креста описывает в своём произведении "Восхождение на гору Кармель". Уже в самом названии – "Восхождение" – подразумевается некий путь, процесс, иногда долгий и болезненный. Наверняка, тот, кто ходил в горы, знает, что чем выше стоит цель, тем меньше вещей нужно брать с собой, тем свободнее ты должен стать. Или, к примеру, исследователи морских глубин. В каком виде они ныряют?

### 4. ВРЕМЯ ДЛЯ ЧТЕНИЯ БИБЛИИ

Важно выделить время для чтения Слова Божия. Даже если первое время вы не будете понимать Библию – ничего, читайте. И вскоре вы выучите этот живой язык Святого Писания. Ведь когда учишь какой-то иностранный язык, тоже не сразу всё понимаешь. А наше стремление, постоянство и труд помогут достичь желаемого.

### 5. ВНИМАТЕЛЬНОСТЬ К БЛИЗКИМ ЛЮДЯМ

Как бы это парадоксально ни звучало, жизнь в затворе учит открытости и внимательности к присутствию другого, учит любить. Если в апостольских орденах и конгрегациях возможны перестановки, то в затворнических общинах мы всегда живём с одними и теми же сёстрами, со всеми их добродетелями и недостатками, с таким, а не иным характером, со своей историей жизни. По-человечески это было бы невозможно. Но когда ты откроешь присутствие Бога и Его любовь в своей жизни и, более того, испытаешь её на себе, тогда ты научишься любить другого той любовью, о которой Иисус говорит в нагорной проповеди.

Иногда, смотря на нас, я представляю себе поле цветов, разнообразных цветов, и тогда вижу красоту общинной жизни, и во мне рождается восхищение работой Дизайнера, который никогда не ошибается. Это и придает силы, чтобы продолжать учиться любить, несмотря на все сложности заданных уроков.

Дорогие, хочется добавить, что в этой новой непривычной обстановке главное – не теряйте надежду и доверие Божьему промыслу. Ведь когда мы верим, что Бог есть любовь, мы знаем, что любовь никогда не причинит зла. А значит, мы можем быть спокойны. Пусть слова из 23 Псалма принесут вам утешение и надежду. Даже если мы и проходим сейчас долиною смертной тени, не убоимся зла, потому что Бог с нами.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**Працягваем вывучаць Біблію разам з «Пазнавайкай».**

## заданне №1

Майсей прывёў свой народ да межаў абяцанай Богам зямлі і памёр. Аб гэтай гісторыі можаш прачытаць у кнізе Другазаконня 34.

Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.



## заданне №2

Пасля смерці Майсея Бог выбраў для свайго народа новага правадыра. Калі выпішаш літары з жоўтых пялёсткаў, ты даведаешся яго імя. Адказ запішы ўнізе.



АДКАЗ:

## заданне №3

Езус Навін паслаў у Ерыхон таемна двух выведнікаў, каб яны агледзелі зямлю і горад. Прачытай у кнізе Езуса Навіна (2 главе) пра жанчыну, якая схавала ў сваім доме выведнікаў ад Цара Ерыхону. Унізе запішы яе імя. Размалюй!



## заданне №4

Дапамажы двум выведнікам дабрацца да дому жанчыны, якая іх схавае.



**Дарагі сябра!**

Хутка распачнуцца летнія канікулы, мы разам з Пазнавайкай жадаем табе добра адпачыць і набрацца сіл для новага навучальнага года. Мы спадзяёмся, што час канікул будзе плённым для цябе і ты зможаш яшчэ больш паглыбіць свае веды пра Езуса. Памятай, што ад Бога канікул не бывае!

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Беларус Ян Чупрынскі прыняў пасвячэнне дыяканату ў супольнасці айцоў-марыянаў

9 мая супольнасць айцоў-марыянаўпавялічылася на пяць дыяканаў, паведамляе seminarium.marianie.pl.

Дапаможны біскуп Элцкай дыяцэзіі Адрыян Гальбас SAC удзяліў дыяканскае пасвячэнне семінарыстам кангрэгацыі. Сярод іх і наш суайчыннік Ян Чупрынскі MIC, які паходзіць з Барысава.

У сваёй гаміліі іерарх закрануў тэму прыняцця Евангелля ў сваё сэрца як жывога Слова, каб такім чынам быць больш падобным да Езуса Хрыста, Які пасылае сваіх вучняў абвяшчаць Добрую Навіну.

Вечныя шлюбы ў манаскай супольнасці Ян Чупрынскі склаў 5 кастрычніка 2019 года на Гары Кальварыі на Марыянках (Польшча) у санктуарыі св. Станіслава Папчынскага.



Ян Чупрынскі на здымку крайні злева

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

# Поможем все вместе!

**Сумма сбора для лечения годовалой минчанки Миланы Пшенко бьет рекорды – 2,5 млн долларов. Однако родители Виктория и Сергей не оставляют надежду, желая спасти своего единственного и долгожданного ребенка.**



У девочки редкое, агрессивно протекающее заболевание – спинальная мышечная атрофия первого типа, который проявляется у детей в первые полгода жизни. Оно страшно тем, что постепенно снижается мышечная активность, дети перестают двигаться, потом не могут самостоятельно глотать и дышать, многие не доживают и до двух лет.

Милана родилась на вид абсолютно здоровой девочкой, но уже в полтора месяца родители заметили, что она не делает попытки держать голову, малоподвижна. В итоге малышку экстренно госпитализировали в РНПЦ "Мать и дитя".

*– Милану обследовали комплексно, взяли все необходимые анализы, включая генетический. Диагноз поверг нас в шок: СМА 1-го типа – самая тяжелая форма заболевания. Это прозвучало словно приговор, жизнь разделилась на до и после... Болезнь неизлечима, преждевременная смерть неизбежна, в Беларуси лечения нет, только паллиативная помощь, чтобы улучшить качество жизни, –* делится горем молодая мама.

По словам родителей, помочь может самый дорогой в мире препарат, заменяющий больной ген здоровой копией. Достаточно одной инъекции, чтобы спасти ребенка, чья жизнь с каждым днем угасает – стремительно прогрессирующая болезнь постепенно атрофирует все мышцы.

Мимо трагедии минской семьи не прошла известная белорусская группа "J:Морс", выставившая свой лот на благотворительный аукцион "Добры Куфар". Солист Владимир Пугач назвал историю Миланы историей маленького бойца, который каждый день сражается за жизнь.

## РЕКВИЗИТЫ ДЛЯ ОКАЗАНИЯ ПОМОЩИ:

**Благотворительные счета открыты в центре банковских услуг 510 ОАО "АСБ Беларусбанк" — г.Минск, ул.Куйбышева, 18; УНП 100325912; МФО AKBBBY2X:**

**— белорусские рубли** — транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY28AKBB31340000001520070000 в отделении 510/402, бессрочный;

**— российские рубли** — транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY61AKBB31343000000620070000 в отделении 510/402, бессрочный;

**— доллары США** — транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY19AKBB31341000000910070000 в отделении 510/402, бессрочный;

**— евро** — транзитный счёт BY28AKBB38193821000170000000 на благотворительный счёт BY36AKBB31342000000800070000 в отделении 510/402, бессрочный;

**Назначение платежа:** Для зачисления на благотворительные счета, открытые на имя Пшенко Сергей Геннадьевич на лекарственные препараты (Spinraza/Zolgensma).

**Пополнение баланса МТС:** +375 33 9133323

**Карта Белгропромбанка:** 5323 0800 8161 2468, срок действия 12/22, держатель SIARHEI PSHANKO

**Карта Тинькофф:** 5536 9137 6411 9430, держатель: Елена Олеговна Л.

**Qiwi-кошелек:** +375255393922

**Яндекс-кошелек:** 4100110438676373

**WebMoney:**
Z353053297707
R293726067648
E340476770893
B340678385068

**PayPal:** milanahelp@gmail.com
**Контакты:** akapein7@gmail.com

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7:**

| | |
|---|---|
| 1 – Б; | 6 – А; |
| 2 – Б; | 7 – Б; |
| 3 – В; | 8 – Б; |
| 4 – В; | 9 – А; |
| 5 – Б; | 10 – Б. |

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2399

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 21.05.2020 г. у 9.05

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь